Сяргей Кавалёў нарадзіўся 20 чэрвеня 1963 г. у Магілёве. У 1985 г. скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску, дзе пазней працаваў выкладчыкам кафедры гісторыі беларускай літаратуры. З 1993 г. жыве і працуе ў Любліне, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры славянскага літаратуразнаўства Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай.

Як пісьменнік пачынаў свой творчы шлях з вершаў (часопісныя публікацыі, нізка ў калектыўным зборніку "Лагодны прамень раніцы", 1988), казак ("Мэва", 1988), літаратурнай крытыкі (зборнікі артыкулаў "Як пакахаць ружу?" (1989), "Партрэт шкла" (1991)). Быў адным з актыўных удзельнікаў таварыства "Тутэйшыя". З 1989 г. сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

На пачатку 90-х гг. зацікавіўся тэатрам, распрацаваў жанр герменеўтычнай драматургіі ("Стомлены д'ябал", "Трышчан & Іжота", "Інтымны дзённік", "Камедыя Юдзіфі" і інш.). Шмат піша для дзіцячага гледача ("Хохлік", "Піліпка і Ведзьма", "Шлях да Батлеему", "Пясчаны замак" і інш.). П'есы ставіліся ў Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы, Славакіі, Балгарыі. Аўтарскія зборнікі п'ес: "Хохлік" (2002), "Стомлены д'ябал" (2004), „Zmęczony diabeł" (2004), "Навука кахання" (2005), "Шлях да Бэтлеему" (2009), "Сёстры Псіхеі" (2010), "Крывіцкі апокрыф" (2013), "Чатыры гісторыі Саламеі" (2013), "Интимний щоденник" (2013).

## ВАРАЖБА

Ноч. Вядзьмарка жне палын
У прагорклым полі,
На далёкі чорны млын
Носіць у прыполе.

Неба зоркамі мігціць,
З шыбеніцы д’ябла
Мёртвы месячык вісіць,
Недаспелы яблык.

Ходзяць жорны хадуном,
Аж рыпіць каменне.
Пахне горкім палыном
Ведзьміна ўтрапенне.

Зварыць келішак пітва,
Развядзе крывёю:
Праясніцца брыдкі твар
Чыстаю слязою.

## ГЛЕЙ

Пад тоўшчай вод гарачых
Жыццём брыняе глей,
Тугу парожніх дзей
Імкнецца перайначыць.

Яшчэ ён не жывы,
Але даўно не мёртвы.
Ён прагне дум істотных
І пошуму травы.

Палае сонца шар,
Праносяцца каметы,
Хавае твар планеты
Бязмежных вод абшар.

Зялёны слізкі глей
Варушыцца, цвярдзее.
І кволіцца надзея —
Пачатак ўсіх надзей.

**ГАРА**

Каменны твар гары
Ірваў калючы вецер.
Ўзмацняўся ціск на сэрца
З глыбінь зямной кары.

З прыроднага разрэза
Самотны крэкт гучаў.
Кавалася душа
З патрэбнага жалеза.

Алмазнага разца
Ўпіліся ў цела іклы,
У домнах руды зніклі,
І холад сэрца сцяў.

Стаіць, глядзіць гара,
Крышталь-сляза на вейках.
А дзесь яе душа
Імчыць-пыхціць па рэйках.

**ПРАЦА**

Струменіць кветка млосны пах,
Ад вільгаці ратуе дах,
Шкло выпраменьвае празрыстасць,
Плакаты дораць урачыстасць.

Ліхтар перамагае змрок,
Зіхціць крыламі матылёк,
Таемна рыбіна маўчыць,
Пранізліва пугач крычыць.

Упэўнівае знак дарожны,
Засцерагае сон трывожны.
На фабрыцы працуе вецер
І сонца недарэмна свеціць.

Хто можа вызначыць праўдзіва:
Дзе ў свеце праца, дзе – ўласцівасць?
На дол лістоту клён скідае,
А вецер зноўку раскідае.

## ГОРАД

Ранак. Вулачка непрыгожая,
Прачынаецца вінны склеп.
З тратуара дзяўчынка прахожая
Пазірае на шыльду «Хлеб».

Чалавек брыдзе, не спяшаецца,
Бы вяртаецца з ночы ў дзень.
Каля склепа раптоўна спыняецца.
Нешта ўспомніў, назад ідзе.

Смецяры сваю працу скончылі,
Разыходзяцца па шынках.
Пад зямлёю чуваць, як ракоча і
Захлынаецца ў злосці рака.

Горад, горад! Чаму так тужліва?
Гоніш роспач – прыходзіць сум.
Уваходжу з натоўпам імклівым
У краіну пад назваю «ГУМ».

## ЦВІК

Стары, іржавы цвік
Трымае рэшткі даху
Пакінутага гмаху,
Дзе толькі змрок і цвіль.

Балюе хіжы вецер
Сярод пустой будовы,
Рыпіць зламаны ровар,
Прыкрыты брудным веццем.

Тырчыць гнілое сена
Правальваецца столь,
Аселі ў мяккі дол
Разбураныя сцены.

Бы прадсмяротны крык
Злятае водцень жаху.
І толькі ўпарты цвік
Трымае рэшткі даху.

## МЕТРО

Зямля ляніва адчыняе
Сваё таемнае нутро:
Шторанак працу пачынае,
Гудзе падземнае метро.

Плыве, сцякае эскалатар
Ракой бясконцай, цвёрдай, плыннай.
Вагонны голас хрыплаваты
Чарговы вызначыць прыпынак.

Успыхне станцыя святлом
І зноўку запануе цемра.
Ляціць былы металалом
У чорнае танэля зеўра.

Сівы дзядулька  з-пад ілба
Глядзіць дарэмна ў люстра вокан:
Чугунных рэек варажба
І электрычны ціск навокал.

**КАЗЮРКА**

Сутоніцца маўклівы горад,
Шарэюць дрэвы за акном.
Душа твая – металалом,
Набытак успамінаў хворых.

Душа твая – металалом
Мінулых рэчаў і здарэнняў:
Стары тралейбусны талон,
Цукерак і манетак жменя,

Дарэмны сёння тэлефон
На скрэмзаным шматку паперы
І знак дарожны на фанеры:
Ляціць машына пад адхон.

Смяецца любая дзяўчына –
Табе з ёй добра гэтым часам...
Раптоўна ўспыхне прад вачыма
Казюркі плямка пад абцасам.

## ПТАХ

Чорны птах заляцеў
У замглёны пакой
І ўсю ноч шарахцеў
Нада мной, над табой.

Можа выйсця шукаў
З невядомага гора;
Мо, сяброўку гукаў
У неонавы горад?

Грукат колаў трамвайных –
За акном сярод ночы.
Крык птушыны адчайны –
У сцюдзёныя вочы.

Узмахнуў птах крылом
І прыціх у журбе.
Выйсця і не было
Ні ў мяне, ні ў цябе.

## ЧЫРВОНЫ АЛОВАК

Я пісаў пра снягі і завеі,
пра дзівосныя малюнкі на шыбах,
пра рэчку, скаваную ільдом,
і пра іншыя прыкметы зімы.
Але ўсё гэта безнадзейна растала
і загінула,
бо я пісаў
чырвоным алоўкам,
а гэты колер такі гарачы...

## ПЛЮШЧ

Шмат ворагаў лезла на муры.
Жывыя, яны падалі мёртвымі.
Аднаму табе даравалася.
Пажаўцелі косці абаронцаў і захопнікаў,
пастарэў нават змрочны камень.
Ты – малады і жаўцееш толькі ўвосень.
Цярплівы плюшч захапіў увесь замак...

## У АБАРОНУ ЧАЛАВЕКА

Мурашынае грамадства
разглядала пытанне
шкоднасці людзей
і свае магчымасці
ў барацьбе з імі.
Вырашылі:
чалавек – першавіноўнік
сусветнага хаосу.

Ляснік у гэты час
агароджваў мурашнік.

## РАССТАННЕ

Набліжаецца пятая пара года:
паміж восенню і зімой –
нашае расстанне з радзімай.

**АДРОЗНЕННЕ**

Спытаў:
«Чым адрозніваюцца людзі,
звычайныя і жывыя,
ад паэтаў?»
Адказала сур’ёзна:
«Сярод першых – мільёны кахаюць,
а гавораць і пішуць пра гэта
адзінкі.
У паэтаў – заўсёды іначай».

Я падумаў, што ў гэтым часе
Я не хачу быць паэтам.

## ЧАЛАВЕК-ГОРАД

Чалавеку прымроілася,
што ён – горад:
узіраецца вачыма светафораў,
размаўляе дарожнымі знакамі,
дыхае лёгкімі паркаў і вентылятараў.
Але паступова ў яго сэрца
прасачыўся жах скрозь вены каналізацыі
і міязмы змяшаліся з крывёй,
ад чаго горад-чалавек
памёр і прачнуўся.
...Гораду ў гэтую ж ноч
здалося на імгненне,
што ён – чалавек.
Але толькі на імгненне,
бо горад падумаў:
«Глупства. Калі б я ім быў –
хіба жыў бы ў горадзе?!»

## РЫБІНА

Мёртвай, парожняй ноччу
пасля тэлефоннай адзіноты
зноў не вытрымаюць
збуцвелыя шлюзы рэальнасці.
Чорныя, атрутныя патокі
галюцынацый
рынуцца ў рэчышча свядомасці,
а тлустая рыбіна ісціны,
выкінутая на глеісты бераг,
зноў будзе маўчаць
і паслухмяна зіхацець срэбрам
пад уяўным месячыкам.

## ВАРТАЎНІК

Мокры вецер скуголіў
усю ноч каля пад'езда.
Я зразумеў:
той самы вецер,
хлопчык-вецер,
што тыдзень назад
абагнуў услед за мной
вугал дома
і ўварваўся ў стары,
амаль гатычны дворык.
Тыдзень назад
знік у горадзе шэпат лісця
і шоргат абгортачнай паперы.
Флюгер знайшоў нарэшце
патрэбны кірунак.

Хлопчык-вецер,
палонны вецер,
недарэчны сведка
падазронага нашага шчасця.

## ШЧАСЦЕ

Аднойчы пад маімі вокнамі
крычалі, звар’яцеўшы, людзі,
што ў горад наш прывезлі шчасце –
яго ў кіёсках прадаюць.
І я, падхоплены натоўпам,
памчаўся, як і ўсе, па шчасце.
Ды толькі, незнарок, спазніўся,
бо дэфіцытны быў тавар.
А ты вярталася шчаслівая,
але табе было замнога.
Ты падзялілася са мною,
і разам мы далей пайшлі.
І вось жывём з табой тым шчасцем,
спакой якога так абрыд нам,
што,  як і іншыя, чакаем,
калі нам гора завязуць...

## АБДЫМКІ

Твае абдымкі былі слабымі,
не трымалі,
калі ішоў да іншай.
Нават у пяшчоце не былі
гарачымі.
Пакрыўджаныя –
не развітваліся.
Чаму ж, калі падаў у бездань,
ратавалі нязменна,
рабіліся моцнымі?

## НЕПАЧАТЫ ВЕРШ

...а дню таксама цяжка быць.
Куды лягчэй жывецца
вечару ці ночы,
ужо не кажучы пра ранак.
Бо ранак –
прадчуванне дня,
як вечар –
смутак па яго зыходу,
як ноч –
салодкі сон пра дзень.
І толькі дзень,
ён – дзень, і толькі.

Так лёгка нам жыццё
і прадчуваць,
і смуткаваць па ім,
і сніць.
Складана – жыць.

## ФІЛОСАФ І САБАКА

Філосаф вывучаў людзей
і меў сябрам сабаку.
Заўсёды яны адзін аднаго
разумелі,
гэтыя пакаёвыя істоты.
Сабака палохаўся толькі,
калі мудрэц крычаў на яго:
«Гэй ты, чалавеча!»
То было найвялікшай абразай,
за якой – пакаранне...

## КОСТКА

Я прыходзіў учора,
я прыходжу сёння,
я прыйду заўтра,
а цябе – няма.

Я чакала ўчора,
я чакаю сёння,
я буду чакаць заўтра,
А ты – не прыходзіш.

Які жах!
Прыйшоў – і не ўбачыў.
Якое гора!
Іпрайшоў побач – і не здагадаўся...

Трэці дзень ляжала
пад кустом бэзу костка.
Трэці дзень галодны сабака
шукаў ежу.

Лілася над зямлёй
песня сустрэчы...

**ПАЭТ**

Аддалі яму ва ўладу
радасць безупынную і весялосць.
І намалявалі перад ім усё харАство жыцця.
І параілі жыццё не ўскладняць,
бо адчай і смутак у маладыя гады –
калі не вар'яцтва, то глупства.
А пасля,
напхаўшы кішэні яму смехам і аптымізмам,
зноў адправілі ў свет:
складаць новыя песні з новымі пачуццямі і матывамі…
Але прайшоў час, і ён вярнуўся –
з вясёлай усмешкай на сумным твары,
з безупынным адчаем у бадзёрых вершах,
штучных і ненатуральных,
са слязамі на радасных вачах.
І толькі ўбачыўшы яго такога,
зразумелі яны,
што не гадамі вымяраюцца смутак і туга
і што ў розных люстрах свет адбіваецца
неаднолькава.

# ПЯСОЧНЫ ЗАМАК

Дзіўная істота сядзела на беразе мора і спявала песеньку: маленькі працавіты Пясчанік, ён толькі што скончыў будаваць свой чарговы замак.

Мініяцюрны замак зіхцеў на сонцы маціцай ракавак, грацыёзныя муры і спічастыя дахі лёгка і бязважка ўзносіліся да высокага неба, якое ад гэтага рабілася блізкім і зразумелым.

З жоўтага блішчастага пяску продкі Пясчаніка будавалі замкі з пракаветных часоў. Пакідалі іх невядомым жыхарам, а самі крочылі далей берагам мора, на ўсход; узносілі ўсё новыя і новыя замкі, пакуль самі не знікалі ў невядомасць, як знікаюць беззваротна і назаўсёдна сляды ў прагных пацалунках марскіх хваляў.

Чакаў той немудрагелісты шлях і Пясчаніка, а пакуль што ён муркатаў песеньку за песенькай і ўлюбёна пазіраў на сваю толькі што скончаную працу.

Сонца ўсё вышэй узнімалася над люстраной вадой, і паступова халодны вільготны ранак змяняўся сухім, спякотным днём. Пясчанік усё сядзеў ля замка і нікуды не хацеў ісці, аж пакуль не зразумеў канчаткова сваё ўпартае жаданне парушыць спрадвечны закон продкаў і дачакацца тых невядомых, ніколі не бачаных жыхароў, дзеля якіх ён жыў і будаваў.

«Мае бацькі заўсёды працавалі ноччу, а раніцай таропка ішлі далей на ўсход, каб вечарам на новым месцы распачаць новы замак. Нам забараняецца бачыць жыхароў. Але ж гэта несправядліва і незразумела: ствараць прыгажосць і карысць для кагосьці невядомага, не маючы ніякай магчымасці даведацца, як яны гэта ўспрымаюць і разумеюць. А раптам жыхарам нешта не падабаецца, можа, зусім нейкая дробязь, пра

якую яны проста не могуць нас папярэдзіць? Чаго і каго мы баімся, куды і адкуль бяжым, не ведаючы спачыну? Можа, палохаемся ганьбы і кпінаў за сваю працу? Але нельга не заўважыць хараства там, дзе яно ёсць. Калі ж яго няма, дык навошта далей жыць, навошта ўзводзіць пачварныя гмахі і нясклепістыя будынкі? Няхай я парушу спрадвечны закон продкаў, але я даведаюся праўду і супакою свае згрызоты і сумненні», – вырашыў Пясчанік і адчуў доўгачаканую палёгку, што ўрэшце адважыўся здзейсніць сваё даўняе нясмелае жаданне.

Ён сядзеў доўга, ажно пакуль сонца не перасунулася ў зеніт. Тады ў прыбярэжным зарасніку пачуліся шоргат і трэск, нечыя галасы і злы смех. З травы выскачыў Пацук, з кустоў вылезла Малпа, з-за дрэў выйшаў Конь.

З агідным віскатам Пацук кінуўся ў Замак і знік пад яго бясконцымі скляпеннямі. Малпа з важным выглядам абышла вакол замка, кратаючы рукамі муры і брамы. Конь лёг на цёплы пясок і абыякава ўтаропіўся ў супрацьлеглы ад замка бок.

Пясчанік не зварухнуўся, і звяры не заўважылі яго. А магчыма – ім было ўсё роўна.

Праз нейкую хвіліну зноў з'явіўся Пацук і нешта злосна шапнуў Малпе. Малпа задаволена ўсміхнулася і, паказытаўшы Пацука за вухам, гукнула Каня. Конь узняўся, ляніва пазяхнуў і пачаў руйнаваць замак.

– Што вы робіце?! – закрычаў Пясчанік, здзіўлены і абураны.

Конь спыніўся, абярнуўся да маленькага Пясчаніка і запытальна зірнуў на Малпу, за якую схаваўся Пацук.

– Ты –хто? – важна спыталася Малпа.

– Я – Пясчанік, я пабудаваў гэты замак і не разумею, навошта вы яго разбураеце!

– А навошта ты яго пабудаваў? Хіба не для таго, каб яго разбуралі?

– Вядома, не. Я пабудаваў замак для таго, каб у ім жылі.

– Ды ты – увогуле дзівак. Хто гэта будзе жыць у пясочным замку? Ніхто.

– Ён дзівак, – віскнуў з-за Малпы Пацук, а Конь неахвотна і вяла заржаў.

– Як – ніхто? – зусім разгубіўся Пясчанік. – Мае продкі з пракаветных часоў узводзілі пясочныя замкі, і заўсёды для іх знаходзіліся жыхары.

– Якія жыхары? – пацікавілася Малпа.

– Не ведаю. Продкі ніколі не чакалі іх прыходу, яны адразу ж ішлі на ўсход, будаваць новыя замкі. Таму жыхароў ніхто ніколі не бачыў, і ніхто ніколі не распавядаў, якія яны.

– Вось бачыш, – узрадавалася Малпа. – Значыць, ніякіх жыхароў ніколі і не было, калі іх ніхто не бачыў. Таму твае продкі і не чакалі іхняга прыходу, бо нельга дачакацца таго, што не існуе.

– Ніколі не было? – пачаў разумець увесь жах зведанай ім нарэшце таямніцы Пясчанік. – Але навошта ж тады будаваць замкі? Навошта было жыць маім продкам, навошта жыць мне?

– Ну, можа, былі калісьці раней, зусім даўно, а потым пераваліся, зніклі, – суцяшальна ўдакладніла Малпа і добразычліва працягвала: – Мы таксама калісьці штосьці для некага будавалі. А потым зразумелі ўсю марнасць і непатрэбнасць гэтай працы і вырашылі заняцца больш вартай і разумнай справай – знішчаць зробленае іншымі. Зараз мы ідзём па ўзбярэжжы мора на ўсход і руйнуем пабудаванае табой і іншымі дзівакамі. Павер мне, гэта куды прыемней, спакайней і карысней. І нікому ніякай шкоды – пясочныя замкі, напрыклад, калі своечасова не паспееш іх разбурыць, развальваюцца самі, як толькі ўсчанецца залева альбо насунецца шторм. Вытры слёзы, і пойдзем з намі.

– Мне цяпер усё роўна, – сказаў Пясчанік і ў апошні раз паглядзеў на замак, разбураны і змярцвелы.

Маціцавыя ракаўкі не блішчэлі на сонцы і гонкія спічастыя дахі не ўзносіліся над жоўтымі мурамі.

Неба згусла і сінела недзе далёка-далёка; Пясчанік, Малпа, Пацук і Конь рушылі на ўсход.

* * *

Яны сунуліся ўсё далей, і рабілася іх усё больш. Недзе побач з Пясчанікам муркатала дзікая Котка, ззаду рохкала Свіння, наперадзе, высалапіўшы язык, бег Сабака. Яшчэ шмат невядомых і проста безыменных стварэнняў гнятліва цягнулася ў тым жа кірунку і з той жа мэтай, а неба засцілася доўгай чарадой рознаплямённых птушак, пакінуўшых свае гнёзды, каб разбураць гнёзды чужыя.

– Навошта ты будуеш, хіба не для таго, каб потым хтосьці руйнаваў? – пытаў ужо сам Пясчанік у чарговага будаўніка-дзівака і крочыў далей без радасці і жадання.

– Хто гэта будзе жыць у такім маленькім замку?! – пераконваў усіх Пясчанік і праводзіў дні за днямі, не шкадуючы, што іх застаецца ўсё меней.

– Ніякіх жыхароў ніколі і не было, калі іх ніхто не бачыў, – тлумачыў Пясчанік, а ў вачах яго хаваліся смутак і туга.

– Я таксама калісьці штосьці для некага будаваў, а потым зразумеў усю марнасць і непатрэбнасць гэтай працы і вырашыў заняцца болыш вартай і разумнай справай, – ахвотна спавядаўся Пясчанік. А ноччу захлынаўся слязьмі, праклінаў той дзень, калі яму захацелася ўведаць праўду, і зайздросціў тым, хто ідзе спрадвечным шляхам продкаў, ні пра што не задумваецца і не здагадваецца.

Але аднойчы яны сустрэлі істоту, якая будавала палацы з вапны і насуперак усякаму розуму, нават калі зведала таямніцу сваёй бяссэнсавасці і нікому-непатрэбнасці, адмовілася разбураць зробленыя ёю палацы і ўвогуле хоць штосьці нішчыць у гэтым сусвеце. Тады звяры раз’юшыліся і па загаду Малпы самі зруйнавалі вапнавыя палацы, не зважаючы на слёзы і на літанні няшчаснай ахвяры. І пайшлі прэч, пакінуўшы руіны ў вапне і разбурэнне ў душы.

Пясчанік непрыкметна затрымаўся і, азірнуўшыся, падышоў да заплаканай істоты.

– Як цябе завуць? – толькі і паспеў спытаць ён, бо яго адразу паклікалі.

– Вапнінка, – толькі і паспела адказаць яна, бо праз ім-

гненне Пясчанік знік.

«Вапнінка» – здолеў ён усё ж пачуць і ўсю ноч думаў толькі пра яе, а таму – пра сябе ранейшага.

Праз некалькі дзён Малпа адправіла некуды Пацука, Свінню і Ваўка, і калі яны вярнуліся, Пясчанік падслухаў, што Вапнінка зноў пабудавала палац, а звяры зноў яго зруйнавалі.

– Мы не можам затрымлівацца столькі часу амаль на тым жа месцы з-за адной вар'яткі! – раззлавалася Малпа, адразу страціўшы свой важны і аўтарытэтны выгляд. – Заўтра пойдзеце туды зноў, і калі ўбачыце новы палац, знішчыце разам з палацам і яго стваральніцу. Яна паказвае ўсім вельмі дрэнны прыклад і перашкаджае ў нам рушыць наперад.

Пясчанік дачакаўся ночы і, калі шчыльная цемра ахутала зямлю, непрыкметна выбраўся са зграі.

«Прэч адсюль, прэч! – узрушана шаптаў ён, прабіраючыся на захад, да Вапнінкі і яе палацаў. – У пяску, пад палацам, я выкапаю такі глыбокі падземны ход, што нават Пацук не пралезе туды ўслед за намі. А пралезе – там будзе чакаць яго пастка. Калі яны прыйдуць, мы схаваемся і перачакаем; яны ж не могуць доўга затрымлівацца на адным месцы – ім трэба ісці, ім трэба спяшацца, а нам пакуль ісці і спяшацца няма куды. Яны пасунуцца далей, а мы будзем узводзіць вапнавыя палацы і пясочныя замкі з магутнымі, надзейнымі мурамі і гонкімі блішчастымі дахамі з маціцавых ракавак. Мы будзем будаваць і спадзявацца, ствараць і верыць. А жыхары з'явяцца, яны абавязкова з'явяцца, трэба толькі іх доўга і настойліва чакаць».

Пясчанік ішоў скрозь вабкую, густую цемру, толькі злёгку падсвечаную люстрастай паверхняй мора, думаў пра будучае шчасце і бадзёра спяваў песеньку.

Насустрач яму насоўвалася здалёк імглiста-белая пляма толькі што пабудаванага вапнавага палаца.



# БЕЛАЯ НЕЗАБУДКА

У гэтым маленькім горадзе не было ні дымных камінoў, ні хуткіх машын. Машыны, праўда, у горадзе вадзіліся, але рухаліся яны нетаропка і паважна.

Можаце вы ездзіць хоць крышачку хутчэй?! – абураўся горад-малютка.

А куды спяшацца ў такім невялічкім горадзе? – дзёрзка адказвалі лянівыя машыны.

У гарадка была мара – мець хаця б адзін заводскі комін. Комін павінен дыміць і сцвярджаць годнасць горада. А пакуль што гарадок быў маленькі, чысты і квітнеючы. Людзі бадзёра крочылі па трох яго вуліцах, але таксама ніколі і нікуды не спяшаліся. Жыла сярод іх і адна працавітая бабулька, у якой, вядома ж, былі ўнукі, але жылі яны ў іншым, вялікім і шумным, горадзе, з сотнямі дымных камінoў і хуткіх машын. Таму, калі ўнукі прыязджалі да бабулі, гарадок прагна слухаў іх размовы (ён так марыў стаць вялікім, сапраўдным горадам!).

Але ўнукі гасцявалі рэдка, нават вельмі рэдка, і бабуля бавіла свой час, працуючы ў садзе. Там раслі цюльпаны, астры, ружы, нарцысы, півоні. Асабліва шмат было незабудак. Ды вось аднойчы ўбілася ў сад суседская карова і з’ела ўсе незабудкі. Ацалела толькі адна – белая. Відаць, карова палічыла, што незабудкі бываюць толькі блакітныя, таму не звярнула на яе ўвагу. Бабуля любіла Белую Незабудку, клапатліва даглядала і любавалася ёю кожную раніцу. Суседкам яна тлумачыла, што Белая Незабудка нагадвае ёй далёкае юнацтва.

І Незабудка любіла сваю гаспадыню: заўсёды, калі бабуля падыходзіла, хіліла да яе галоўку. Наогул, незабудкі пяшчотныя, сціплыя кветкі. І Белая Незабудка не была выклю-

чэннем – яна ўвабрала ў сябе ўсе лепшыя якасці сваіх родзічаў і ніколі не фанабэрылася перад іншымі кветкамі.

Раней непадалёк ад яе жыў Пырнік – дасціпны весялун і цікавы апавядальнік. Кветкі хавалі яго ад бабулі, а ён сваімі выдумкамі хоць трохі ажыўляў іх аднастайныя дні. Усё ж гаспадыня знайшла яго, вырвала з коранем і выкінула за плот. Цяпер кветкі сумавалі.

Але аднойчы да іх завітаў нечаканы госць.

Да бабулі прыехалі ўнук з ўнучкай. У першы ж дзень яны выправіліся на шпацыр (жыхары вялікіх і дымных гарадоў вельмі любяць загарадныя шпацыры) і вярнуліся з вялізным букетам палявых кветак. Калі ішлі паўз агародчык з букета ўпаў на зямлю Званочак, а можа, і знарок выскачыў. Дзеці гэтага не заўважалі і пайшлі далей. Званочак паспеў толькі паківаць услед сваім палявым і лугавым сябрам галоўкай – так званочкі развітваюцца.

Бабульчыны кветкі са здзіўленнем пазіралі на прыхадня – ён быў такі маленькі і жвавы!

– Ты адкуль? – пацікавілася Півоня.

– Адтуль, дзе гуляе вецер, дзе шчодра свеціць сонца, дзе грымяць навальніцы, – весела празвінеў Званочак.

– Але ж і ў нас ёсць сонца, ёсць вецер, і ў нас бываюць навальніцы з маланкамі і перуном! – здзівіліся кветкі.

– Не, гэта зусім не тое! – адказаў Званочак і, азірнуўшыся, дадаў: – Высокі плот ахоўвае вас ад ветру, дом затуляе ад граду і навальніцы. Градкі вашы заўсёды паліваюць, таму вы не звяртаеце ніякай увагі на сонца і хмары.

– Няпраўда. Я вельмі люблю сонца. Яно такое ласкавае і прамяністае. Яно... як кветка, – ледзь чутна прашаптала Белая Незабудка.

Але Званочак, пачуўшы яе ціхі голас, адмоўна заківаў галавой: Ты жывеш на градцы. Цябе не палохаюць ні дажджы, ні засухі. А мы, палявыя кветкі, можам загінуць ад лішняй вады, калі не будзе свяціць сонца, і без вады – ад яго спякотных промняў.

– А хіба можна жыць без людскога дагляду, без увагі, без

плота?! – здзівіліся астатнія кветкі.

– Дурненькія, вядома, можна! Спачатку ж з’явіліся на Зямлі кветкі, а потым ужо людзі з лейкамі і парканамі.

– Там, напэўна, ёсць і сапраўднае каханне, – уздыхнула Разбітае Сэрца.

І тады Званочак пачаў распавядаць пра сваю радзіму: пра братоў-званочкаў, пра вясёлы лёткі вецер, пра жаўрука, пра пчол і прыгожых матылькоў, пра дзікіх аленяў і пра тое, як страшна дрыжыць зямля пад капытамі коней...

А калі ён скончыў свой аповяд, клапатліва дагледжаная, засцеражоная ад усіх нечаканасцей Белая Незабудка сказала:

– Я хачу ўсё гэта пабачыць сама. Людзі кажуць: у нашым садзе прыгожа. Але тое, пра што ты распавядаў, у тысячу разоў прыгажэй. Вецер, сонца, жаўрукі, дзікія алені, засухі і праліўныя дажджы, бясконцая песня званочкаў... Не, цяжка паверыць, што такое існуе на свеце. А калі ўсё ж існуе, я абавязкова павінна ўбачыць гэта сама.

– Ты наўрад ці выжывеш там, – асцярожна запярэчыў Званочак.

Але ні ён, ні іншыя кветкі не здолелі адгаварыць Белую Незабудку. Раніцай яны са Званочкам вырашылі адправіцца ў падарожжа...

Кветкі прачынаюцца ў розны час – адны раней, другія пазней. Але той раніцай прачнуліся ўсе разам. Званочак і Незабудка прамыліся расой і сабраліся ў дарогу. Кветкі сказалі ім на развітанне шмат сардэчных і шчымлівых слоў (яны ж так любілі сваю Белую Незабудку!). Ёй таксама было сумна развітвацца з сябрамі. І яшчэ з бабуляй. Але наперадзе чакала невядомая, чароўная краіна, і гэта ўсяляла бадзёрасць і надавала сілы.

Горад яшчэ спаў (яму снілася адразу сем вялізных заводскіх камінoў, і таму ён нічога не заўважаў), калі веснічкі адчыніліся і пажадалі сябрам шчаслівай дарогі. І толькі стары плот панура маўчаў. Яно і зразумела, бо кожныя дзверы заўсёды адкрываюць штосьці новае, а кожны плот штосьці хавае.

Сябры рушылі ў дарогу.

Была сонечная раніца, крыху халаднаватая, з бязлюднымі вулкамі. Лёгкі ветрык павяваў насустрач сябрам і даносіў пахі той незвычайна-прыгожай краіны, куды яны ішлі. Здавалася, увесь свет яшчэ спаў разам з горадам, і толькі па вузенькай шашы, пасярод гэтай соннай неабсяжнасці ішлі дзве бясконца маленькія істоты з бясконца вялікай марай...

З-за павароту ляніва выкацілася шэрая машына, у якой сядзеў заспаны шафёр. Машына фыркала – яна была незадаволеная тым, што яе так рана абудзілі і прымусілі працаваць.

Машына не заўважыла Незабудку і Званочка (а можа, і заўважыла, хто ведае?), а сябры ўбачылі жалезнае страшыдла вельмі позна: яно ўжо насоўвалася проста на іх. Званочак закрыў сабой Белую Незабудку, і тут жа абое былі расціснуты бяздушным гумовым колам.

– Бывай, сонца!.. Бывай, Званочак! – паспела толькі прашаптаць Белая Незабудка і ператварылася ў бясформены рысунак пялёсткаў. Званочак памёр моўчкі, без адзінага звону.

Калі гарадок прачнуўся і ўбачыў расцёртыя коламі кветкі, ён не мог утрымацца ад абурэння:

– Ай-яй-яй! Мая адзіная шаша засмечана!

І тут жа спалохаўся:

– А раптам хтосьці з іншага горада ўбачыць гэта і скажа, што я зусім не горад, калі на маіх вуліцах валяюцца кветкі? Што будзе тады?

Ён нават і не здагадваўся, што вялікія гарады з сотнямі дымных заводскіх камiноў, з тысячамі імклівых машын бачаць у снах кветкі. І ён загадаў дворніку змесці прах Незабудкі і Званочка з шашы.

***

На лузе, звычайна каля ракі і непадалёку ад горада альбо вёскі, сярод зялёных і рыжых траў, сярод палявых кветак і хмызнякоў, можна ўбачыць (калі пашчасціць) адну ці некалькі незабудак. Незабудкі гэтыя, вядома, не такія прыгожыя, як свойскія, але тут, сярод жывой прыроды, яны выглядаюць

каралевамі, і неяк асабліва пранізліва радуюць чалавечае вока.

Ніхто іх не палівае, ніхто пра іх не клапоціцца, яны пакутуюць і ад засухі, і ад праліўных дажджоў, свавольнік вецер калашмаціць іх грыўкі. Раніцай іх будзіць срэбны спеў жаўрука, а засынаюць незабудкі пад калыханку салаўя. І ім вельмі страшна, калі побач праносіцца табун коней. А навакол – тысячы палявых кветак: рамонкаў, смалянак, дзьмухаўцоў, васількоў і, канечне ж, званочкаў... Адкуль яны?..

Хто яго ведае? Можа, іншая Незабудка збегла ад іншай бабулі з іншым Званочкам і дабралася да той незвычайна-прыгожай краіны, такой ваблівай і жаданай. Можа, проста зярнятка хатняй незабудкі занесла ветрам на луг, і яно там цудам прарасло. А можа, якісьці добры чалавек, крыху дзівак, пасадзіў тут гэтыя кветкі.



# МЭВА

Радыёаматар быў няўдачнікам: і ў звычайным жыцці, і ў сваім захапленні. Вось проста не шанцавала чалавеку, хоць ты плач! І прыёмнік у яго добры, і працуе з ночы ў ноч, а плёну – аніякага.

Так і ўчора: да шасці гадзін раніцы вартаваў адну далёкую, аўстралійскую станцыю – нічога не злавіў і лёг спаць. А яго сябар прачнуўся, як і ўсе нармальныя людзі, у палове сёмага, уключыў апаратуру – і адразу на яе натрапіў. І гэтак заўсёды.

Такім ужо нарадзіўся. Ну чаму шанцуе заўсёды іншым? Няўжо не здарыцца такі выпадак, калі лёс вылучыць нарэшце і яго? Дзе ты, шчасце? Няўжо цябе нельга знайсці ні на адной радыёхвалі свету?

Але сёння ён будзе ўпартым, будзе сядзець хоць трое сутак, і аўстралійская госця ад яго не ўцячэ!

Радыёаматар вырашыў змагацца да канца, настроіў прыёмнік на патрэбны дыяпазон і цярпліва пачаў чакаў, гатовы запісаць кожны шоргат у эфіры. Аднак ішоў час, а свет паранейшаму для яго маўчаў.

І зноў маркотныя думкі авалодалі няўдачнікам. Якая сумная, панурая Зямля! Якія надакучлівыя і непрывабныя людзі! Аднастайная, шэрая праца, крыклівыя дзеці, фанабэрлівая жонка. Хоць бы нешта незвычайнае і прыемнае! Хоць бы нешта... хоць бы што... толькі і застаўся вось... прыёмнік... ды і зноў... як у жыцці – не шанцуе...

Галава апусцілася на стол, заснуў, і, здаецца, ужо ніякая сіла не прымусіць прачнуцца, адплюшчыць павекі. А тут яшчэ нейкія галасы, нейчы плач. Можа, у сне, а можа, і ў эфіры.

Трэба прачнуцца, трэба прыўзняцца і ўключыць магнітафон, каб зафіксаваць сігналы, каб былі доказы. Трэба ўстаць... уключыць... трэба... Але чатыры бяссонныя ночы моцна трымаюць чалавека ў палоне, і толькі невядомыя галасы пранікаюць у княства сноў. І здаецца радыёаматару, што ён пачынае нават да нечага прыслухоўвацца, нешта разумець...

– Ты ляціш на Зямлю, і ўсе зоркі мільгаюць табе ўслед. Мэва, мілая, вярніся... Хіба табе з намі чагосьці не ставала, хіба не любілі мы цябе, не дзяліліся сваімі радасцямі, сваім болем, самымі патаемнымі марамі, як дзялілася ўсім гэтым з намі ты? Мэва... Навошта ты, куды?

– Не-не, дарагія сястрыцы, мне з вамі было вельмі хораша, і вы дзяліліся са мной усім, што ў вас было, і нідзе ва ўсім сусвеце не знайсці мне болей такіх сяброўак. І зараз вы праводзіце мяне тужлівымі незразумелымі позіркамі, і шапочаце, і мільгаеце, і клічаце назад...

– А ты ўсё ляціш і ляціш, скрозь ноч, скрозь халодную бездань, скрозь змрок. Мэва, малютка, што ты хочаш знайсці на той халоднай глыбе пяску, адкуль не вярталася яшчэ ніводная зорка? На Зямлі няма шчасця. Шчасце тут, уначы, у бясконцасці і бессмяротнасці...

– Я імкну ўсё хутчэй і хутчэй, усё бліжэй Зямля, усё далей і далей вы. Я вас чую, але нішто ўжо не спыніць мой шлях – я лячу на Зямлю на ўласных крылах, я – птушка! О, вы не ведаеце! Вы не бачыце: тут, толькі тут жыццё, на гэтай планеце, і я імчуся да гэтага шчасця, як і кожную ноч імчалася на крылах маіх сноў. Сёстры мае... няўжо вы мяне яшчэ чуеце?!

– Чуем, Мэва, мы чуем цябе, бо ты – таксама зорка, нарадзілася ёй. Мэва, чаму ты ляціш на Зямлю, чаму ты шукаеш там свой сэнс, на змрочнай і небяспечнай Зямлі, на якую кожны дзень Сонца дасылае промні, ад якіх гіне ноч?.. Чаму ты зрабілася птушкай, Мэва, чаму ты не баішся памерці?..

– Мілыя сёстры, Зямля ўжо блізка, і я ўжо не зорка, а птушка. Маленькая, блакітная (гэта ж колер маіх сноў) птушка. А наперадзе – некалькі бясконца салодкіх гадоў шчасця, зялёныя лясы і сінія азёры, няўрымслівыя дні цяпла і сонечнай

пяшчоты. О мае верныя сёстры, як шкада, што вам ніколі не суджана зведаць усё гэта, як шкада, што я сапраўды адзіная з мільярдаў зорак, якой наканавана ўбачыць Зямлю. Вам яна ніколі не снілася, бо ўсё ваша жыццё – ноч; прыгожая і строгая, мудрая і вечная, але – толькі ноч.

– Дурнічка Мэва... Маленькая летуценніца, народжаная ўначы, каб трызніць днём... Гэты дзень і гэтая планета пазбавілі цябе розуму, і ты называеш тое, ад чаго нас выратавала міласэрная прырода, шчасцем, а ўсё наша вечнае жыццё, увесь наш сэнс ставіш ніжэй нейкага сонечнага святла, нейкіх сноў, бачыць якія не даводзілася яшчэ ніводнай зорцы. Мэва, мы цябе ледзьве чуем, мы не бачым твайго бляску! Мы цябе так любілі, куды ты, Мэва,? Падумай, яшчэ імгненне – і ты зробішся смяротнай, яшчэ імгненне – і ніводная зорка не здолее цябе пачуць; няўжо табе не страшна?! Мэва, Мэва...

– Я лячу, і мае крылы не ведаюць стомы, я – птушка з сэрцам зоркі. Мне страшна! Мне вельмі страшна, але нават у гэтым страху я адчуваю пачатак нечага новага, пачатак сапраўднага жыцця, з бедамі і радасцямі, якое так адрозніваецца ад вечнага, але абыякавага і халоднага ззяння ў начным небе. І ў гэтым, у гэтым сэнс, мой сэнс, які вам ніколі не зразумець. Не крыўдуйце, я ведаю, што вы жадаеце мне толькі дабра. Прабачце, даруйце той Мэве, якая вас пакінула, якая ўжо ніколі не будзе палохаць вас сваімі незразумелымі снамі.

– Мэва, вярніся, яшчэ не позна, Мзва, яшчэ ёсць час!..

– Не, я не вярнуся... я ўжо адчуваю паветра!

– Мэва, ты загінеш, ты застанешся на Зямлі і памрэш, ты знікнеш назаўсёды! Мэва, ты – зорка, табе няможна на Зямлю!

– Я – птушка! Але цішэй, цішэй, сёстры; я спускаюся і развітваюся з вамі. Вось ужо аблокі, а за імі – таксама птушкі, галасы якіх я чую...

– Мэва, прачніся, гэта канец, Мэва!..

Вельмі розныя галасы, у іх нараджэнне і смерць, жалоба і замілаванне жыццём, літанні і радасць...

– Мэва, ты – на Зямлі. Ты загінула, Мэва, мы не можам цябе выратаваць!

– А зараз я ўжо бачу і саміх птушак. Яны таксама розныя: вялікія і маленькія, павольныя і хуткія, крыклівыя і задуменныя. Усё гэта я ўжо бачыла ў снах, таму не здзіўляюся і не палохаюся, а толькі радуюся.

– Мэва, мы не чуем цябе. Цябе няма ў нашым сусвеце! Дзе твая бессмяротная душа, Мэва, дзе знайшло прытулак тваё маленькае цела птушкі?!.

– А ўнізе – мора. Яно сіняе-сіняе і спакойнае. Дзесьці далёка-далёка з глыбіні яго выплывае Сонца. Яго промні пакуль што непрыкметныя і халодныя, але я ведаю – пройдзе зусім мала часу і кожная істота на гэтай планеце, кожная птушка, кожная расліна будуць шукаць гэтыя промні і цешыцца імі. Я ведаю гэта, бо я таксама шукала іх у сне.

– Мэва, Мэва... Яна пакінула нас, пакінула ноч, пакінула вечнасць і бясконцы прастор. Чаму, навошта? Дзе яна і ці ёсць яна? Мы яе больш не чуем....

– Яшчэ імгненне – і я ў вадзе, у яе пяшчотнай прахалодзе, а зверху – асалода промняў. Я не баюся, усё гэта я ведаю ўжо тысячы гадоў і знаю, што наперадзе ў мяне  – увесь свет, усё шчасце, якое толькі можа змясціць у сабе смяротнае сэрца і бессмяротная душа. Я плыву! Я плыву, як і сотні іншых птушак, але ніводная з іх не адчувае такога шчасця.

Недзе ў бясконцай глыбіні Сусвету плакалі зоркі. Яны плакалі першы раз у жыцці, і слёзы ўзмацнялі іх бляск. Іх самотныя галасы вандравалі па пустой і абыякавай прасторы; пакутлівыя галасы, якія шукалі яе, Мэву...

* * *

Радыёаматар прачнуўся ў дзесяць гадзін. Прыёмнік ужо нехта выключыў, відаць, жонка, але пакой быў непрыбраны і нагадваў пячору, у беспарадку застаўленую рэчамі і засмечаную абрыўкамі магнітафоннай стужкі.

А за акном свяціла сонца, і нейкі адчайна-смелы праменьчык нават прабіўся праз цяжкія фіранкі ў пакой. Праз сцены чуліся галасы птушак. Там, за сценамі, буяла раніца.

Пах кветак дурманіў галаву, зваў у абдымкі прыроды, спа-

кушаў да пакланення раслінам і дрэвам, да замілавання жыццём. Нават камень не мог застацца абыякавым да такой прыгажосці. Раніцай усміхаюцца нават скалы, адлюстроўваючы сваімі гладкімі, адшліфаванымі морам бакамі сонечнае святло і хараство Сусвету...

Радыёаматару было не да прыгажосці. Яго сур'ёзна непакоіў уласны стан здароўя, і за гэтымі клопатамі больш нічога не існавала. «Калі ўжо кашмары пачалі сніцца, дык нядоўга і памерці», – змрочна падумаў ён, кладучыся ў ложак.

– Тата, тата, я бачыў блакітную чайку! Яна плыла зусім побач, – уварваўся ў пакой дзевяцігадовы сынок.

Але радыёаматар ужо спаў. Трэба было набрацца сіл і як след адпачыць. Сёння ноччу ён абавязкова павінен злавіць прэстыжна-далёкую аўстралійскую станцыю.



# ДАЛЁКІ ПОШУМ МОРА

*Анатолю Сербантовічу*

Уздоўж двара быў нацягнуты дрот, да яго прымацаваны цяжкі ржавы ланцуг, зачэплены на ашыйніку вялізнага калматага сабакі, маўклівага і панурага, які ніколі, здаецца, не ведаў чалавечай пяшчоты і дабрыні.

Цэлы дзень сабака ляжаў ля пахілай, збітай з грубых шэрых дошак будкі альбо хадзіў па двары, наколькі дазвалялі дрот і ланцуг, які неадступна валокся следам па зямлі, уздымаючы лёгкае воблака пылу і поўсці. У зеўры будкі тырчала спарахнелая салома, вялікая брудная костка валялася ля ўвахода. Два разы ў дзень да сабакі прыходзіў такі ж маўклівы і пануры чалавек, стаўляў місу з ежай і знікаў за дзвярыма вялізнага дома з абшарпанымі сценамі, з заўсёдна завешанымі вокнамі.

Ноччу сабака высоўваўся з будкі і, паклаўшы вуглаватую і няскладную пысу на мяккія пухнатыя лапы, глядзеў на зоркі.

Так ён пражыў пяць гадоў, такіх жа доўгіх, як стары ржавы ланцуг.

Але аднойчы ноччу сабака ўбачыў у сне сінюю роўнядзь мора і карабель пад белымі ветразямі, які імкнуў за далягляд, насустрач сонцу. Пацягнуўшы паветра, сабака ўстрывожана адчуў незнаёмы салёны прысмак. Ён адплюшчыў павекі і, зірнуўшы на Паўночную зорку, зразумеў, што яна яго некуды кліча...

Раніцай пануры чалавек з місай ежы ўбачыў парваны ланцуг і шматок поўсці па плоце. Чалавек узяў абрывак ланцуга ў рукі і, бразнуўшы ім аб зямлю, пайшоў прэч, сказаўшы не-

калькі брыдкіх слоў. Пакрыўджаны ланцуг злавесна выгнуўся і схаваўся ў пыл.

Тры дні і тры ночы сабака імкнуў на поўнач, у невядомым яму раней напрамку. За ўсе тры дні ён не збочыў са свайго шляху нават на паўбегу. На чацвёрты дзень ён убачыў перад сабой шмат вады і вялікі карабель, які гайдаўся на лёгкіх хвалях недалёка ад берага. З карабля чуліся галасы людзей і шум працы. Некалькі шлюпак перавозілі раз за разам пузатыя бочкі, у якіх булькацела і хвалявалася шалёная вадкасць з прыбярэжных вінаграднікаў.

Сабака лёг на пясок і праляжаў увесь дзень, прыслухоўваючыся да гукаў з карабля, пазіраючы за сноўданнем лодкі і працай людзей на беразе. Калі сцямнела і на небе з'явілася Паўночная зорка, сабака ўсхапіўся і папоўз да лодкі, што была якраз на беразе. Занятыя цяжкай працай, стомленыя людзі не заўважылі, як вялізны шэры цень мякка слізгануў у лодку і знік між дзвюх напоўненых бочак. Лодку ў апошні раз адштурхнулі ад берага, людзі спраўна запрацавалі вёсламі і ў прадчуванні ўтульнасці кубрыкаў і спозненай вячэры перакідваліся жартамі. Сабака шчыльна прыціснуўся да днішча лодкі, у якое раз-пораз біліся хвалі; ім насустрач трывожна білася сэрца сабакі. Лодку паднялі на карабель, але разгрузку адклалі да раніцы, бо людзі стаміліся, а трэба было хутчэй здымацца з якара, каб не сустрэцца з таможным патрулём.

Ноччу сабака выбраўся са свайго схоўшча і агледзеў палубу. Акрамя вахценнага, на палубе нікога не было; сабака пракраўся на карму і ўбачыў белапенны след, які пакідаў за сабой карабель у светлых, пад высокім месячыкам, хвалях. Сабака зразумеў, што ён плыве разам з караблём, і здзівіўся, чаму зоркі такія ж нерухомыя, як і на тым лапіку неба, што быў бачны ў зеўры будкі. Але зірнуўшы на паверхню мора, ён заўважыў там адлюстраванні зорак, і гэтыя адлюстраванні імкліва рухаліся разам з караблём. «Мы плывём па зорках», – падумаў сабака, залез назад у лодку, і заснуў, шчаслівы і спакойны.

Раніцай ён прачнуўся ад ваблівага паху, які даносіўся ад-

некуль паблізу, і ўспомніў, што вось ужо каторы дзень нічога не еў. Праглынуўшы сліну, сабака расплюшчыў вочы і вылез са свайго сховішча на палубу. Палуба раптам па-здрадніцку паплыла некуды ўбок, сабака пахіснуўся і ўпаў. Пачуўся вясёлы рогат. Узняўшы галаву, сабака ўбачыў над сабой некалькі чалавек. Рогат быў незласлівы, і сабака першы раз у жыцці таксама, не па-сабачы, усміхнуўся.

Праз некалькі хвілін ён ужо сёрбаў цёплую смачную поліўку пад добразычлівае бурчэнне чалавека ў белай вопратцы, які гаспадарыў на камбузе.

Здавалася, усё было добра, і ўжо вахценны ў канцы свайго рапарта весела дакладваў капітану:

– І яшчэ ў нас на караблі сабака, які ўмее смяяцца!

– Адкуль?.. Чый? – халодна-абыякава працадзіў скрозь зубы капітан, вывяраючы лоцыю.

– Нічый. Адкуль і як узяўся – невядома. Каманда з ім ужо пасябравала і накарміла.

– За борт... – Табе штосьці не зразумела? Я сказаў ясна!

– Капітан, каманда будзе незадаволена...

– Я калі-небудзь паўтараў загад двойчы альбо адмяняў яго?

– Ёсць, капітан...

– Пачакай! Праз некалькі міль будзем праходзіць паблізу вялікага вострава. Там. Зразумеў?

* * *

Цёплыя рукі, добрыя дагэтуль, якія лашчылі яго разам з дзясяткамі іншых рук, раптам моцна падхапілі сабаку і ўзнялі над палубай. У наступны момант ён праваліўся ў паветра і з размаху балюча ўдарыўся аб ваду. Вынырнуўшы, убачыў з аднаго боку ад сябе блізкі бераг, а з другога – карабель. Сабака моўчкі паплыў услед за караблём. Ён не думаў пра тое, чаму людзі так жорстка абышліся з ім, сэрца яго шалёна білася, лапы напружана працавалі, нейкі невядомы інстынкт дапамагаў яму трымацца на паверхні і гнаў, гнаў услед за караблём. З адчаем сабака зірнуў на неба, але Паўночнай зоркі там

не было, як і ўвогуле не было ніякай зоркі: свяціла сонца, неба патанала ў блакітнай празрыстасці. І раптам у гэтай празрыстасці сабака ўбачыў сваю зорку і забрахаў, шалёна і бездапаможна, з апошніх сіл.

Капітан стаяў на мосціку і са здзіўленнем глядзеў на звар'яцелае стварэнне, якое замест таго каб плыць да блізкага берага, плыло ў адкрытае мора. І раптам карабель сцішыў ход, а потым і ўвогуле спыніўся. Ветразі абмяклі і млосна абхапілі сценьгі, кліверы, фокса. Поўны штыль.

«Гэты дзіўны сабака нарадзіўся пад шчаслівао зоркаю», – падумаў капітан і загадаў спусціць выратавальную шлюпку. Ён не быў па натуры жорсткім чалавекам, ён трыццаць гадоў свайго жыцця аддаў мору, а таму любіў на караблі парадак і кіраваўся статутам...

* * *

На ўскраіне маленькага партовага горада, закінутага ў самы далёкі і недасяжны куток свету, месціўся стары карабельны могільнік. Гнілое дрэва перамяжоўвалася тут з іржавым жалезам, спарахнелыя снасці патыхалі газай.

Зрэдку толькі адзінокая чалавечая душа забрыдала вечарам у гэтае княства тлену і былой велічы. І калі такое здаралася, адзінокая чалавечая душа са здзіўленнем заўважала, як з нетраў напаўразваленага, даўно спісанага карабля выбіраўся на свет божы пастарэлы, невідушчы сабака і асцярожна, няўпэўнена хістаючыся на кожным кроку, прабіраўся па парослай травой палубе на карму. Там сабака стомлена садзіўся і, павярнуўшыся мордай да мора, прагна лавіў яго таямнічыя і далёкія пахі, цэлымі гадзінамі, нерухомы, як камень, і загадкавы, як сфінкс. Вось ужо адзінокая чалавечая душа пакідала тлум мёртвых і вярталася ў горад, у тлум жывых, а сабака ўсё сядзеў, узіраўся аслеплымі вачыма ў марскую далеч, і нейкае падабенства думкі асвятляла яго разумную галаву.

Ён успамінаў тыя незлічоныя марскія мілі, па якіх пракладаў сабе курс яго загадкавы і незвычайны лёс, успамінаў бясконцыя шумлівыя гавані і лагодныя бухты, мроілася яму

лютасць дзікага ўрагану і сонная млявасць штылю, агні святога Эльма і зялёная паверхня Саргасавага мора. Халодныя снежныя айсбергі, бліскучыя на паўднёвым сонцы, праплывалі бясконцай чарадой праз стомленую свядомасць сабакі, і вольны белы ветразь мкнуў у далеч без ашыйніка і ланцуга.

Вільготная трапічная ноч мякка насоўвалася на могільнік, гірлянды зорак запальваліся ў чорным небе, адлюстроўваючыся ў сіняй вадзе і бляклых, зацягнутых светлай імглой, вачах сабакі. Але сярод гэтай безлічы зорак не было самотнай Паўночнай зоркі, і толькі Паўночны Крыж яшчэ трымаў неба над галавой старога сабакі. Заўсёды раптоўна і нечакана, як на каралавы рыф, успаміны наляталі на чорны кашмар той далёкай, апошняй ночы карабля і яго каманды. І зноў сярод шалёных успышак маланкі сабака бачыў спакойны, без ценю страху твар капітана і адчуваў яго моцныя рукі, якія хутка прывязвалі да тулава чацвераногага сябра выратавальны круг. А потым усё паглыналі халодныя хвалі і цяжкая імгла часу, і сабака чарговы раз правальваўся ў іх сонную бездань...

У сярэдзіне ночы, заўсёды ў той самы час сабака прачынаўся, знаёмая сутарга праціна яго скалелае худое цела, ён паслухмяна ўставаў і цягнуўся на карму. Там ён з цяжкасцю ўзнімаўся на прыступкі і звыкла торгаў шнурок вахценнага звана, пазелянелага і аглухлага.

Дзіўныя, незразумелыя гукі луналі тады над карабельным могільнікам, тужлівыя і нікому непатрэбныя. І толькі недзе на ўскраіне горада, далёка ад мора прачынаўся сярод ночы сівы самотны чалавек, выпальваў ля акна сцёртую марскую люльку і зноў клаўся ў ложак, ведаючы, што ўжо да самай раніцы яму не будзе спачыну.

А сабака, выканаўшы свой штодзённы абавязак, стомлена спускаўся з мосціка і, хістаючыся, бы вечны маятнік, вяртаўся ў нетры карабля. Толькі перад самым люкам ён спыняўся і з надзеяй узіраўся ў марскую далеч, чуйна прыслухоўваўся да нечага, быццам яшчэ магчыма было штосьці пачуць. Але ніхто не адгукаўся, і, апошні раз азірнуўшыся, сабака самотна знікаў у змроку карабля.

# ВОГНЕННАЕ ДРЭВА

Стары, усё яшчэ магутны Дуб з густой раскідзістай кронай рос крыху наводшыбе ад лесу. Крона яго служыла надзейным прытулкам мноству птушак. Птушкі паважалі і любілі свайго гаспадара. «Дзядзечка Дуб» – звалі яны яго.

Але раптам Дуб пачаў сохнуць.

– Што здарылася, дзядзечка Дуб? – пыталіся птушкі і маладыя дрэўцы.

А Дуб і сам не ведаў, што з ім такое.

– Ломіць і млее ўсё, як грызе што, – пажаліўся ён свайму старому сябру Каршуку.

Каршук спалохаўся і паляцеў шукаць Дзятла. Дзяцел агледзеў Дуб і таксама спалохаўся:

– Гэта жахлівыя жукі-караеды. Пакуль што яны бяскрылыя, ды вось-вось крылы ў іх адрастуць.

– Але ты выратуеш Дуб? – занепакоена спытаў Каршук.

– Птушкі бяссільныя перад гэтымі пачварамі. Гора таму дрэву, якое жукі-караеды выберуць сваёй ахвярай. А хутка яны разляцяцца па ўсім лесе, і нам, птушкам, давядзецца шукаць новую радзіму, – бездапаможна адказаў Дзяцел.

Моўчкі выслухаў Дуб яго словы і спахмурнеў яшчэ больш. Ад жаху застыў нерухома ўвесь лес і нават птушкі сцішыліся. Усю ноч не спаў Дуб, успамінаў сваё доўгае нялёгкае жыццё, усю ноч думаў, як ратаваць лес ад навалы. А раніцай папрасіў Каршука сабраць птушак. Калі яны зляцеліся, ён доўга ім нешта шаптаў. Птушкі спачатку абурыліся, потым засмуціліся і паабяцалі выканаць просьбу хворага дрэва. І больш за ўсіх перажываў стары Каршук.

Спачатку кожная птушка знайшла па сухой галінцы. По-

тым з галінкамі ў дзюбах паляцелі да чалавечага жытла. У дарозе да іх далучыўся Бусел.

Доўга ляцелі птушкі і нарэшце заўважылі вогнішча, каля якога сядзеў маленькі хлапчук.

Першы прызямліўся Каршук. Ён хацеў торкнуць сваю галінку ў агонь, але малы не спужаўся, а схапіў таўстую ламачыну і так лупцануў ёю старога птаха, што той і галінку выпусціў з дзюбы. Каршук сунуўся яшчэ раз і зноў атрымаў палкі. Прыйшлося ўцякаць.

«Першы раз у жыцці б'юць за добры ўчынак,– сумна падумаў стары драпежнік. – Вось яны, людзі...»

Самае дзіўнае было пасля. Да вогнішча ўпэўнена апусціўся Бусел і пашыбаваў прама на малога. Хлопчык спачатку здзівіўся, але потым павёў сябе як сапраўдны мужчына:

– Табе агеньчык патрэбен, бусачка? Давай сваю галінку, – ласкава сказаў ён, адкінуў прэч сваю зброю і, падпаліўшы галінку, аддаў птушцы.

Бусел, а за ім і ўся чарада падняліся ў паветра. Калі галінка дагарала, падлятала наступная птушка са сваёй. Але вось засталася апошняя... Птушкі разгубіліся: «Што рабіць?»

– Палова ляціце ўніз па галінкі, палова ляціце за мною, – раптам прапішчала нейкая птушачка, імя якой Каршук не ведаў, і, падляцеўшы да дагараючай галінкі, падставіла агеньчыку сваё крыло.

Імгненне – і яно ўспыхнула; у самы раз, бо галінка патухла. Маленькая птушачка ляцела так упэўнена, быццам і не гарэла зусім, быццам ёй не заставалася жыць усяго некалькі хвілін.

«Якая самаадданасць! – падумаў Каршук. – Дваццаць гадоў лаўлю і ем такіх вось птушанят, але ніколі і ў галаву не прыходзіла, што гэткая малеча можа быць героем!»

– П*а*даю, – прапішчала птушачка праз хвіліну. Да яе падляцела такая ж малеча і падставіла крыло.

«І гэтая ў героі лезе, – чамусьці з зайздрасцю паглядзеў на яе стары Каршук. – Такая малеча згарае за хвіліну. Гэтак, пакуль дабяромся, пагараць усе. Я згарэў бы не так хутка і

праляцеў бы больш».

Раптам ён заўважыў, што чарговую вогненную птушку рыхтуецца змяніць Бусел.

«Ну не, даўганогі, гэта табе не ўдасца. Хопіць з мяне ганьбы каля вогнішча. Ляці ўжо лепш да сваіх буслянят. І дзякуйце Богу, што загінуў ваш стары вораг і вам цяпер не трэба будзе непакоіцца за сваё жыццё».

Калі малая птушачка запішчала: «П*а*даю!», ён рашуча, але неяк пяшчотна, што яго самога здзівіла, адштурхнуў Бусла і падставіў сваё жорсткае вялікае крыло.

«Ну вось і ўсё. Я і не здагадваўся, што ім было гэтак балюча. Ага, вунь і птушкі з галінкамі. Даганяюць**.** Што там крычыць Бусел? Не, збіць полымя ўжо не ўдасца. Але прыпыніцца сапраўды трэба, каб паспелі, каб я быў апошняй ахвярай. Падлятаюць. А я ледзь трымаюся».

Да Каршука падляцелі птушкі, падставілі адразу дзве галінкі, якія тут жа загарэліся.

– Ляціце хутчэй, нявінныя стварэнні! Ратуйце лес, а выратуеце – жывіце шчасліва. На аднаго ворага ў вас будзе меней. Гэй, Бусел, з’еш за мяне лішнюю жабу! – крыкнуў стары драпежнік і знік з далягляду.

У сярэдзіне дня загарэўся стары дуб. Гэта заўважыў ляснік, схапіў рыдлёўку і сякеру і пабег ратаваць лес.

Дні былі дажджлівыя, у лесе мокра. І ад чаго ён загарэўся, стары? – расказваў ён потым суседзям. – А яшчэ птушкі. Адкуль іх столькі зляцелася? І чаго? Як над чалавекам усё роўна.



# СЕКСТЫНА З-ПАД РАДЫЯТАРА

У кватэру, дзе жыў калісьці Паэт, пераехалі новыя гаспадары. Некалькі дзён перавозілі яны са свайго ранейшага жытла шматлікія шафы, канапы, куфэркі, клункі, дываны, патэльні, каструлі, глячыкі і безліч усялякіх іншых патрэбных і непатрэбных рэчаў.

З Паэтавага дабытку ў кватэры засталася толькі выразаная з косці аўтаручка, якая перад самым ад’ездам гаспадара выпадкова звалілася са стала і закацілася пад радыятар ацяпляльнай батарэі.

Новая гаспадыня, падмятаючы падлогу, заўважыла самапіску, бо знайсці ў доме нават нейкую дробязь для жанчыны гэтак жа лёгка, як для мужчыны згубіць яе.

Гаспадару адразу спадабалася дзіўная аўтаручка. Ён заправіў яе атрамантам і паклаў у пузатую нязграбную вазу з белай пластмасы, у якой месцілася з дзесятак аўтаручак рознага колеру і гатунку.

Самапіска ачомалася толькі недзе за поўнач: пад радыятарам было горача, і таму атрамант, якім запраўляў яе Паэт, хутка высах, і толькі новая порцыя пакрысе вярнула яе да прытомнасці.

На здзіў, у пакої панавала цемра, хоць востры месячык за акном толькі-толькі даплыў да сярэдзіны свайго маркотнага шляху. Звычайна ў такі час на стале гарэла лямпа і пры яе мяккім зеленаватым святле Паэт дасціпна і пранікнёна размаўляў з самапіскай альбо з кімсьці з яе сяброўак. Занятак гэты быў настолькі цікавы і прыемны, што яны заўсёды занатоўвалі свае размовы на доўгіх, асляпляльна-чыстых лістах паперы,

якія пасля называліся рукапісамі, а размовы – вершамі.

Самапіска згадала абставіны свайго нешчаслівага падзення і засумавала. Столькі часу праляцела марна, без працы! Крыўдзіла яшчэ і тое, што за ўвесь гэты працяглы час Паэт так і не ўспомніў пра яе.

Заклапочаная сваімі думкамі, яна не адразу заўважыла сваіх суседзяў і, калі незнаёмы рыпучы голас аклікнуў яе, спалохалася і разгубілася.

– Гэй, ты адкуль? – спытаў голас.

– Як... адкуль? – здзівілася самапіска.

– Адкуль ты ўзялася ў нашай вазе?

Самапіска прыгледзелася. Голас належаў нейкаму важнаму паркеру. Побач з ім грудзіліся некалькі аўтаручак, з паўдзесятка алоўкаў і звязка фламастэраў. І ўсе яны былі незнаёмыя, ніколі раней не бачаныя!

– А дзе мае сяброўкі? – здзівілася самапіска. – І адкуль узяліся вы?

Жыхары вазы зірнулі адзін на аднаго і зашапталіся. Потым, бы па камандзе, сціхлі, і слова ўзяў той самы важны паркер. З яго прамовы самапіска зразумела, што Паэт з’ехаў разам з яе сяброўкамі, паперамі, лямпай і працай, а ў яе цяпер будзе новы гаспадар (дагэтуль з людзей яна ведала толькі Паэта, які сам яе і выразаў, з фантазіяй і густам).

Далейшае знаёмства з новымі суседзямі яшчэ больш здзівіла самапіску.

Ніхто з іх чамусьці не меў імя. Яны нават не разумелі, як гэта ў алоўка ці аўтаручкі можа быць імя і што за вар’ят-чалавек, з якой прычыны захоча такія імёны прыдумваць. Але калі самапіска сказала, што яе, напрыклад, завуць Секстына, бо так называўся першы верш, які быў з яе дапамогай напісаны, – у іх працяглым маўчанні яна адчула зайздрасць.

Новыя знаёмыя Секстыны адрозніваліся ад яе ранейшых сяброўак. Паэт большасць аўтаручак рабіў сам, таму яны выглядалі арыгінальна і былі непадобныя адна на адну. Алоўкамі ён рэдка карыстаўся, толькі пры чытанні кніг, і падбіраў лёгкія, стрымана-цвёрдыя, востра заточаныя аднакаляровікі.

Фламастэр меў толькі адзін, для выкрэслівання, і зваў яго «Цэнзар» (аўтаручкі крыху пабайваліся Цэнзара, хаця і паважалі яго ў душы за шчырасць і бескампраміснасць). У новага гаспадара сярод аўтаручак было некалькі зусім аднолькавых, фабрычнага вырабу. Алоўкі – чамусьці ўсе мяккія, злавесна яркія, што пакідаюць пасля сябе на паперы непрыемны тлусты след, прыкметны і крыклівы. З той жа мэтай – каб нешта вылучыць, прыцягнуць увагу – ужываліся і фламастэры.

Калі Секстына спытала, ці піша іх гаспадар вершы, аўтаручкі адказалі, што не ведаюць, а па іх няўцямна-здзіўленаму выгляду яна зразумела: ніхто з іх не ведае, што імі пішуць увогуле, ды і мала цікавяцца гэтым. Значна больш іх цікавілі іншыя рэчы, напрыклад, гатункі атрамантаў і маркі паперы. У Паэта таксама звярталі на гэта ўвагу, але зусім па іншых прычынах. Паэт пісаў на гладкай мелаванай паперы, калі пісалася занадта хутка – браў паперу жорсткую, шурпатую: на ёй пісалася марудней, што ў нейкай ступені ратавала ад паспешлівасці. Атраманты выбіраліся няяркія, сціплыя, каб не стамлялі вочы. У новых знаёмых колер абмяркоўваўся да дробязей, да адценняў, але асабліва вялікае значэнне надавалася гатунку, фабрычнай марцы, папулярнасці атраманту і паперы. Гэтыя маркі, знакі, гатункі складалі галоўную тэму размоў, імі вымяраліся павага і шчасце. Калі ў суседкі атрамант лепшы – трагедыя, калі ў яе раптам зламалася пёрка – справядлівая помста.

Прэстыж і павага тут размяркоўваліся неяк дзіўна. Найбольшай пашанай у Паэта і яго аўтаручак карыстаўся самапіс з вельмі цвёрдым стальным пёркам, аздоблены зверху мініяцюрнай галавой ваўка. Яго так і звалі – Воўк. Паэт пісаў ім, калі быў нечым раззлаваны альбо нешта не ладзілася: тады рука нервавалася, і пёрка аўтаручкі магло зламацца. Воўк мужна вытрымліваў такія не частыя, але цяжкія іспыты, якія не пад сілу былі іншым ручкам.

У новага гаспадара найбольшай павагай карыстаўся стары тоўсты паркер, бо меў пазалочанае пёрка, шмат гадоў і ўласную, толькі для яго аднаго асабіста, пляшку атраманту спе-

цыяльнага гатунку. За ім цанілася аўтаручка, зробленая за мяжой, і ўжо таму асабліва паважаная, далей самапісы размяркоўваліся па тых жа якасцях і ўласцівасцях. Менш за ўсё гэты хаўрус хацеў пісаць, і таму, калі выявілася, што гаспадар упадабаў новенькую, яны толькі зларадні́чалі.

Для Секстыны праца з'яўлялася сэнсам жыцця, чаканне моманту, калі яна зарыпіць задаволена і весела ва ўпэўненых пальцах Паэта, было прадчуваннем найвялікшага шчасця.

Расчараваная ў новых сяброўках, яна з надзеяй і трывогай чакала сустрэчы з іх гаспадаром. Але сустрэча гэтая расчаравала і засмуціла. Працаваў новы гаспадар раніцай, роўна тры гадзіны. Потым раскладваў напісанае па канвертах і, ідучы на працу, кідаў у паштовую скрыню. Рука торгалася злосна і нервова. Секстыне ўвесь час было боязна, што праз імгненне яна не вытрымае, зломіцца.

Займаў новы гаспадар увесь ліст, ад краю да краю, што таксама ўспрымалася нязвычна. (Паэт пісаў пасярэдзіне і ў слупок.)

Гэты чалавек не размаўляў з ёй, ён проста прымусова і жорстка выводзіў патрэбныя яму літары, словы, сказы, стаўляў коскі, кропкі, а найчасцей – пытальнікі і клічнікі. Звыклая да вытанчана-прыгожага і глыбокага зместу, яна з агідай выводзіла незлічоныя скаргі, ананімкі, паклёпы, шматлікія патрабаванні і пагрозы.

Яе новы гаспадар не быў паэтам! Ён быў проста злы, нікчэмны чалавек, і ад гэтага ёй, яго рэчы, прыладзе для пачварнай, нядобрай працы, рабілася балюча і тужліва. Яна чакала ўжо толькі аднаго: хутчэй бы гаспадар нацешыўся з яе і пакінуў у спакоі.

Дзень за днём, па тры гадзіны – абрыдлая, аднастайная праца. А пасля – сумная кампанія рэчаў, дробязных, неразвітых копій свайго «дасканалага» гаспадара. Аднойчы яны пахваліліся Секстыне, што ў іх ужо таксама ёсць імёны, узятыя з загалоўкаў гаспадара. Але пачуўшы гэтыя імёны, Секстына жахнулася: Вораг, Пустабрэх, Падманшчыца, Аблуда, Прыстасаванец, Мярзотнік! Стары паркер узяў сабе мянушку-зага-

ловак «Пачкун».

Секстына паспрабавала растлумачыць ім усю недарэчнасць падобных імёнаў, але ўбачыўшы іх надзьмутасць і варожасць – змоўкла.

Адзінай радаснай падзеяй апошніх дзён стала неспадзяванае адкрыццё сябра, шчырага і вернага, у асобе аднаго з каляровых алоўкаў, з выгляду непрыкметнага і малацікавага. Сяброўства з ім ажывіла Секстыну і дапамагло глядзець у будучыню з большай надзеяй і аптымізмам. Жоўты колер алоўка не падабаўся гаспадару, не падыходзіў да крыклівага зместу яго пісанняў. Таму звычайна гэты аловак (Секстына назвала яго Акварэлікам) стаяў без працы.

Маім першым гаспадаром, – даверліва распавядаў Акварэлік, – быў маленькі хлопчык, які вельмі любіў маляваць: дома, у школе, у зацішку двара, у альбоме, у вучнёўскім сшытку, проста на выпадковым шматку паперы. І ў кожным яго малюнку патрабаваўся я, у кожным з іх хлопчык абавязкова маляваў сонца – невялічкае жоўтае кола ў правым верхнім ражку аркуша. І мне таксама рабілася неяк сонечна і цёпла, быццам я сапраўды часцінка сонечнага святла.

– Сонца не можа быць жоўтым і круглым, нават у правым верхнім ражку ліста, – задумліва сказала тады яму Секстына.

– Ты бачыла сапраўднае сонца? – шчыра пазайздросціў ёй Акварэлік.

– Не, але мой ранейшы гаспадар распавядаў мне пра яго, заўсёды прыгожа і заўсёды па-рознаму. Пісаць пра сонца – найвялікшае шчасце.

– Наш гаспадар не піша пра сонца. І ніколі яго не малюе, – сумна ўздыхнуў Акварэлік.

– Так, ён увогуле ніколі не малюе. І не складае вершаў.

– Шкада, што я не магу маляваць сам без чалавека. Я б намаляваў жоўтае сонца, а ты склала б пра яго верш.

Секстына прамаўчала і задумалася...

Заўтра прайшло як звычайна, і паслязаўтра таксама, а наступнага дня гаспадар прыбег дадому радасны і ўзбуджаны.

– Яны мне ўсё-такі адказалі! Яны прыслалі адказ! – пера-

можна паведаміў ён жонцы. – Я казаў табе, што проста так гэта мярзотніку не абыдзецца! Не на таго ён натрапіў!

Але радаваўся гаспадар нядоўга. Прачытаўшы адказ, ён бездапаможна войкнуў, адштурхнуў ад сябе паперу, бы жудасную пачвару, і пабег да тэлефона.

Спалоханая жонка кінулася спачатку ўслед, але збаялася раптоўнага гневу, вярнулася і падняла ліст. На ім почыркам гаспадара быў напісаны нейкі вершык, а ўнізе змяшчаўся адказ рэдакцыі:

«Паважаны N. N.! Мы прыемна здзіўлены і шчыра ўзрадаваны, атрымаўшы ад Вас замест чарговай скаргі гэты цудоўны вершык. Ён прынёс нам невялічкі адпачынак у нашай нялёгкай працы і выклікаў добры настрой у супрацоўнікаў. І хаця верш, што Вы даслалі як свой уласны, належыць нашаму вядомаму паэту, у кватэры якога Вы цяпер жывяце, – мы ўсё роўна рады за Вас і ўпершыню ўдзячны за ліст».

– Што дзеецца на свеце, што дзеецца! – здзіўлена заквахтала жанчына: почырк, якім быў напісаны верш, несумненна належаў яе мужу.

– Навошта ты гэта напісаў?! – нічога не разумеючы, спытала яна гаспадара, калі той, кінуўшы трубку тэлефона, вярнуўся ў пакой.

– Я – напісаў? Я? Ы-ы-ы!..– толькі і змог адказаць той, і ў шалёнай злосці, выхапіўшы з жончыных рук ліст, пачаў крэмзаць яго першым алоўкам, які трапіўся пад руку, аж пакуль у кватэру нехта не пазваніў.

Гаспадар пабег адчыняць, а жонка яшчэ раз кінула вокам на паперу і знямела: па ўсім лісце (і ў правым верхнім кутку, і ў левым ніжнім, і па ўсіх-усіх астатніх) разбягаліся яркія радасныя промні-пырскі сонца, суцэльна жоўтага і ўсмешлівага.

Прыйшоў, між тым, паштальён. Ён прынёс тоўсты стос адказаў на скаргі і пагрозы, напісаныя два дні назад. Не трэба і казаць, што ўсе яны аказаліся, як кроплі дыстыляванай вады, падобныя на першы ліст.

– Ну вось і ўсё, – задаволена сказала Секстына. – Відаць, гэта будзе самы лепшы канец для нашай гісторыі. Там, пад

радыятарам, я заўважыла вялікую шчыліну ў паркеце, дзе людзі мяне не знойдуць, пакуль я сама таго не захачу. І ў мяне прадчуванне, што Паэт неўзабаве вернецца ў сваю кватэру і я зноў спатрэблюся для шчырай, сумленнай працы.

– Я – з табой, – вырашыў Акварэлік не задумваючыся.

– Значыць – пад радыятар!..



# ЧАРНАКНІЖНІК

Жыў-быў калісьці на землях Княства чалавек, што прыдумваў гісторыі, ад якіх нават у самых смелых і адчайных рыцараў кроў застывала ў жылах ад боязі і жудасці.

«Кард-казачнік» – з д'ябальскай усмешкай называў ён сам сябе. «Кард-кніжнік» – з павагаю называлі яго ў палацы Ўладара. «Кард-чарнакніжнік» – трывожна перашэптваліся пры яго з'яўленні простыя людзі і палахліва хавалі вочы.

У дзяцінстве Кард быў звычайным хлопчыкам: лавіў блакітна-жоўтых матылёў на лузе, вудзіў рыбу ў лянівай рачулцы, зімой ляпіў з сябрамі снегавіка з чырвонай морквай замест носа і чорнымі вугельчыкамі замест вачэй.

Вось толькі ніколі не бачыў ён сноў: ні будзённых чорна-белых, ні каляровых святочных.

Але якая ўрэшце чалавеку розніца, сніць ён штосьці ноччу ці не, якая з гэтых сноў карысць: у кішэнь іх не пакладзеш і на лусту хлеба не намажаш. Затое Кард ніколі нічога не баяўся: прайсціся ноччу па лесе альбо забрысці на стары могільнік з пахілымі крыжамі і нясклепістымі капліцамі было для яго надзвычай проста, і не выклікала гэта ніякіх звышнатуральных пачуццяў і ўяўленняў.

Праславіўся Кард тады, калі прыйшоў у палац Уладара і распавёў сваю першую жудасную гісторыю.

З таго часу золата ракой пацякло ў яго скарбонку, а ліхая слава ў народзе разлілася яшчэ шырэй.

Праўда, прыдворны летапісец згадваў, што і раней калісьці прыходзіў у палац Уладара юнак па імені Кард, таксама распавядаў нейкія гісторыі, але быў асмеяны і выгнаны прэч

не толькі з палаца, але і з Княства ўвогуле.

Невядома, той гэта быў Кард ці іншы, але Кард-чарнакніжнік з'явіўся ў палацы ўжо ў немаладым узросце і ў сталым розуме. Дзе ён бадзяўся да гэтага часу – таксама невядома; у народзе хадзілі чуткі пра навучанне яго ва ўсходніх халдзеяў і алхімікаў, іншыя сцвярджалі, што бачылі яго ў пячорах мясцовых ведзьмакоў і варажбітоў. Вось толькі незразумела, што яны самі ў тых пячорах рабілі, калі яго там бачылі.

Уладар Княства акрамя сваёй жорсткасці і ваяўнічасці славіўся яшчэ бязмежнай любоўю да неверагодных прыдумак і таямнічых гісторый. Таму ў яго палацы заўсёды тулялася процьма розных махляроў, ашуканцаў, аматараў лёгкага жыцця, вандроўных шкаляроў і бяздомных валацуг, якія цудоўна суіснавалі разам з паважнымі мудрацамі, астролагамі і паэтамі, бо мелі той жа занятак і той жа заробак.



Шмат цікавых і загадкавых гісторый паведалі яны Ўладару, але Кард пераўзышоў іх усіх, і нават у гэтых людзей, якія рэдка вымяралі сваё жыццё паняццямі сумлення, нават у гэтых людзей адымала мову і валасы шавяліліся ад жудасці, калі Кард-чарнакніжнік заканчваў адну з сваіх чарговых гісторый. А сам ён толькі смяяўся – ах, які д'ябальскі і незямны быў той смех!

Рука не варухнулася б занатаваць тут хаця адну з пякельных прыдумак Карда-чарнакніжніка. Але памятаеце казку Шарля Перо пра Сінюю Бараду? Кажаце, – яна вельмі страшная? Ды не, яна н е в е л ь м і страшная, яна хутчэй таямнічая. А што, калі б вам апісалі падрабязна і з асалодай, як Сіняя Барада забіваў усіх сваіх жонак і пры гэтым кожны раз ператвараўся ў нейкую новую фантастычную пачвару, якіх ніколі не бачыла шматпакутная зямля? Альбо – маляўніча паведалі пра сад, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі гушкаюцца не на арэлях, а на вялізных, пасінелых языках павешаных нябожчыкаў з асалапелымі вачыма і крумкачамі на плячах.

«Людзі павінны заўсёды нечага баяцца, інакш яны не будуць баяцца нікога», – важна казаў Уладар і не шкадаваў золата для Карда. Вычварныя казкі перапісваліся па загаду Ўладара шматлікімі перапісчыкамі, а затым распаўсюджваліся ў народзе і ў прысмеркі чыталіся ў кожнай сям'і.

«Людзі любяць жахлівыя прыдумкі і байкі пра ваўкалакаў і відмаў, пра багвянага цмока і начных пачвар, яны з вар'яцкай асалодай, халадзеючы ад жаху, уяўляюць услед за мной павука велічынёй з замкавую браму і маленькага чырвонага чалавечка з пазногаць. Як бяздумныя начныя матылі на агонь, ляцяць людзі на цяпельца жуды і адвечнай боязі. Я, ва ўсякім разе, атрымліваю за сваю хлусню грошы, яны ж – толькі начныя кашмары», – думаў Кард-казачнік, у чарговы раз страсаючы ў скарбонку золата і з пагардай пазіраючы на анямелых ад жаху ўладара і ягоных прыдворных.

Так і прайшоў свой нядоўгі зямны шлях слынны Кард-чарнакніжнік, купаючыся ў золаце, уладзе і чалавечай нянавісці. Пабудаваў палац, багацейшы за палац самога Ўладара, але такі пачварны з вонкавага выгляду, што богабаязны чалавек не адважваўся і за вярсту падыходзіць да таго месца. Адны толькі служкі асмельваліся ўвайсці ва ўнутраныя пакоі, але, хаця і мелі за сваю працу вялікія па тым часе грошы, доўга не вытрымлівалі і змяняліся новымі. Пасля той-сёй пад строгім сакрэтам прагаварваўся жонцы пра дзіўныя, нечалавечыя звычкі чарнакніжніка. Ну, а што ведае жанчына – ведае ўвесь свет. Шмат чаго распавядалі суседзям тыя белагаловыя жанкі, і ўсе яны абавязкова ўзгадвалі пакой са шкляным дахам і ружовымі сценамі, дзе спаў Кард-чарнакніжнік, абавязкова ўдзень і з найбольшай асалодай у сонечнае надвор'е. Сноў жа, як меркавалі добрыя людзі, той вядзьмак увогуле не бачыў.

Але вось прыйшла чарга і да яго, чарга, якая не абмінае на гэтай зямлі нікога: ні святога, ні грэшнага, ні жабрака, ні магната; ні разумніка ні дурня. Памёр Кард-казачнік, памёр у страшэнных пакутах; але дзесьці на апошняй мяжы праясніўся яго замглёны прадсмяротнымі кашмарамі розум, і ён паспеў запісаць сваю апошнюю казку. А потым адышоў у іншы свет з

шчаслівай дзіцячай усмешкай на прасветленым твары.

Няшмат хто прачытаў тую казку, бо Ўладар знішчыў яе (адзіную з усіх казак Карда), неўзабаве пасля таго як яе прачытаў. Але той-сёй паспеў, хаця кожны з тых шчасліўчыкаў пасля зусім па-рознаму апавядаў яе змест нашчадкам. Вось адзін з гэтых аповядаў – невядома ў якой ступені праўдзівы:

«І з’явіўся чарнакніжніку Карду Голас, пра які ён ніколі не пісаў у сваіх казках, і сказаў з роспаччу:

– Кард, Кард, усё жыццё ты хлусіў іншым, а зараз памёр і зразумеў, што хлусіў сабе. Ці ведаеш, што чакае цябе там, Кард?

– Цемра?..

– Не. Не.

– Тады –пекла?..

– Не, Кард. На жаль – не.

– Няўжо – рай?

– Не блюзнер. Не здагадваешся?

– Што ж яшчэ?

– Ты сам, Кард. З усімі сваімі прыдумкамі і не бачанымі пры жыцці кашмарамі.

– Злітуйся. Лепш пекла...

– Пекла сапраўды было б табе лепш. Ты сам стварыў сабе свет для вечных пакут. А кніжнікі заўсёды адпраўляюцца ў краіну іх уласнай фантазіі. Ты гэтага не ведаў?

– Я не ведаў нічога. Жыў. Прадаваў сваю фантазію за грошы і ўладу, а не ствараў вечныя сусветы.

– А цяпер каешся?

– Каюся. Напэўна,  як і кожны.

– Як і кожны... У цябе ёсць магчымасць самому выбраць адну з уласных прыдумак для апошняга прытулку. Заплюшчы вочы – і ўспомні самае светлае.

Кард змружыў павекі і з безнадзейным адчаем аддаўся ва ўладу памяці. Хвалі яе панеслі Карда хутка-хутка, далёка-далёка.

І хаця бераг быў зусім блізка, Кард баяўся яго і ўцякаў усё далей.

Выспа.

Ён сам прыдумаў яе, Выспу Забойцаў: тут сабраліся забойцы і іх ахвяры з усяго свету і кожны вытварае сваё злачынства адзін перад адным шмат разоў, да бясконцасці. Улюбёная казка Ўладара, якую неаднойчы прыходзілася яму распавядаць – вось чаму наскочыла на яе рака памяці.

– Не, лепш бы пекла...

– Хочаш паспрабаваць яшчэ раз?

Зноў мяккія зманлівыя хвалі панеслі рэшткі душы Карда – далей, па рацэ памяці.

Але як запаволіла сваю плынь рака, як сцішылася, палагаднела.

Што гэта?

Гэта – возера. Возера Кровазмяшання. Прыдумка, з якой пачалася бліскучая кар’ера Карда-казачніка.

«Лепш бы пекла, лепш бы Выспа!»

– Злітуйся, вярні назад.

– А можа, яшчэ раз?

– Навошта? Усё аднолькавае, нават яшчэ горш.

– І ўсё ж паспрабуй апошні раз. Цяжка назусім губляць веру ў чалавека.

«Куды далей? Дзе заканчваюцца жудасць і пачварнасць, нянавісць і хлусня?»

«Нідзе. Усюды пачынаюцца».

І рака зноў пачынаецца, гоніць свае брудныя воды прэч ад возера, усё хутчэй і хутчэй. Цікава куды? Усё далей і далей. Можа, у мора? Пагойдваюцца на стомленых хвалях асклепкі душы. Мора Усёпрадажнасці і Усіхкупляльнасці? Напэўна, іншага ж не прыдумаў. Дык ці варта было зноў, у апошні раз?

Нехта крычыць?

Плача?..

Спявае?!

«Спыніцца, спыніцца. Хто ты, што плачаш, што крычыш?»

– Спяваю! Ты не пазнаеш мяне, Кард? Я твая першая песня, Песня Вясны і Кахання. Памятаеш, як ты прыдумаў мяне

ў юнацтве, а потым забыўся назаўсёды? Уладар высмеяў цябе за мяне і выгнаў прэч з Княства.

– Першая песня? У мяне была першая песня... Пра вясну, каханне, пра што яшчэ?

– Пра маленькую хатку ў небе і срэбнагалосага жаўрука на зямлі.

– Хатку ў небе? Можа, наадварот?

– Не-не, ты проста тады няправільна паставіў лагічны націск і парушыў дзеля рыфмы сінтаксічную будову сказа, таму так смешна атрымалася.

– Які дурань! А ўрэшце – якая розніца? Яшчэ цікавей: хатка ў небе!

– Маленькая хатка ў небе!

– Жаўрук на зямлі!

– Срэбнагалосы жаўрук на зямлі!

– Мая першая песня. Зняважаная і забытая, ніколі не напісаная і нікому потым не прачытаная. Дзякуй табе, што адгукнулася, заспявалася на шляху ў бездань, дала апошні прытулак у маленькай утульнай хатцы пад чыстым бязвоблачным небам...

І Голас знік».

І галасы зніклі.



# ЗАПАВЕТ МАЙСТРА

Пад шкляным купалам у садзе мастака вырасла дзівосная кветка.

«Гэта сапраўдны цуд!» – захапляліся ёю людзі і кожны дзень прыходзілі любавацца незвычайнай раслінай.

Стары мастак, калі выпраўляў сваіх вучняў маляваць кветку, так і загадваў: «Намалюйце цуд».

Але міналі гады, і людзі забыліся на дзівосную кветку, бо ў кожнага з іх было шмат яе малюнкаў, зробленых вучнямі мастака, і за гэты час з’явілася мноства іншых кветак, яшчэ прыгажэйшых.

Толькі вучні мастака па-ранейшаму паслухмяна малявалі «цуд» і прыносілі свае працы на суд настаўніка.

І калі да славутага майстра запісаўся новы вучань – ён таксама атрымаў загад намаляваць «цуд».

Вучань пайшоў у сад і намаляваў шкло, пад якім расла кветка.

«Што ты намаляваў?!» – жахнуўся мастак.

«Цуд», – адказаў вучань і даверліва зірнуў у спалоханыя вочы настаўніка.

Калі стары мастак паміраў, ён пакінуў сваю майстэрню і сад менавіта гэтаму вучню.

А на развітанне сказаў:

«Цяпер ніхто не малюе кветкі – толькі шкло, пад якім яны растуць, толькі ваду, якой іх штораніцы паліваюць. Ты першы пайшоў па такім рызыкоўным шляху і дасягнуў вялікіх поспехаў у тэхніцы выяўлення. Каму, як не табе, заступіць на маё месца і вучыць іншых.

Абяцай мне аднак, што калі адзін з тваіх вучняў намалюе раптам замест шкла кветку, – ты не праганіш яго і дапаможаш перамагчы цябе...»

Неўзабаве кветка вырасла не пад шкляным купалам, а побач з ім.

## ПРАЛОГ

Зніклі з нашай зямлі Волаты, зніклі даўным-даўно, і толькі ў памяці простых людзей жывуць прыгожыя легенды пра іх вялікія ўчынкі, толькі ўзнёслыя паэты з самотнымі вачыма і ўражлівай душой узгадваюць яшчэ тыя пракаветныя часы, калі Волаты будавалі замкі з велічэзных валуноў і пераводзілі ў новае рэчышча паўнаводныя рэкі, дужаліся з багвянымі цмокамі і пустэльнымі зданямі, а ў гадзіну добрага настрою і самі ахвотна пужалі іншаземных вапдроўных рыцараў. Ды што казаць пра Волатаў, калі і рыцары непрыкметна перавяліся, нават тыя, якім у звычайных ветраках бачыліся таямнічыя пачвары. А дзе цяпер гэтыя ветракі?

У пульхных разумных кнігах напісана нават, што і не было на свеце нічога такога чарадзейнага і гераічнага, хіба што ў прыдумках і фантазіях чалавечых, але калі не было, дык,значыць, і цяпер няма, вось што істотна!

І не можа быць! Уявіце сабе існаванне Волата ў наш час: якая ад яго карысць людзям і якая ад людзей карысць яму? У параўнанне з машынамі магутнасць яго невялікая, а розумам ён і раней, здаецца, не вызначаўся. Адразу ўзнікла б праблема адзення і харчавання, востра паўстала б жыллёвае пытанне, і наўрад ці пры сваёй мізэрнай карыснасці Волат атрымаў бы шматпакаёвую кватэру з высокай столлю бясплатна, хіба што ў парадку выключэння як унікальная з’ява прыроды.

Вось-вось, менавіта як унікальная з’ява, дзіва заморскае, і, хутчэй за ўсё, скончыў бы сваё вялікае жыццё сучасны Волат у звышсучасным заапарку, а пасля смерці шкілет ягоны прыдбаў бы анатамічны музей.

Дык, можа, і добра, што зніклі з нашай зямлі Волаты?..

АСОБЫ:

**В я д з ь м а р к а**
**Ц я с л я р Г а н ч ы к**
**В о л а т**
**Г н о м ы-к а р у з л і к і**

## З’ява першая

*Хатка вясковай знахаркі-вядзьмаркі. На сценах вісяць сушаныя зёлкі, на паліцах стаяць рознакаляровыя бутэлькі з адварамі і настоямі. В я д з ь м а р к а схілілася над сталом, мармыча замову над бутэлькай з лячэбным адварам.*

В я д з ь м а р к а (*таямнічым голасам*). “Маладзік малады, у цябе рог залаты, на моры купаўся, нам паказаўся, табе на цёмныя ночы, а нам на светлыя вочы, вам на стаянне, а нам на здароўе, вам на высат*у*, а нам на красат*у*. Першы цар – ясен месяц на небе, другі цар – зелен дуб у полі, трэці цар – белы камень у моры. Сколькі тым тром царом укучы не схадзіцца, столькі рабу Божаму Васілю зубам не балець і косці не шчаміць, і крыві не псуваць. Дай Бог на помач”. (*Узбалтвае бутэльку*). Хопіць на сёння. Стамілася. (*Пералічвае бутэлькі, якія стаяць на стале*). Ад спуду, ад суроку, ад жывата, ад зубоў. З дня ў дзень тое самае.

*Дзверы з рыпеннем адчыняюцца, у хатку ўваходзіць цясляр Г а н ч ы к. Углядаецца ў паўзмрок, з цяжкасцю заўважае гаспадыню.*

Г а н ч ы к. Дзень добры, бабуля.
В я д з ь м а р к а. Калі б быў добры – ты б да мяне не прыйшоў, цясляр Ганчык.
Г а н ч ы к. Твая праўда.
В я д з ь м а р к а. Што здарылася, хлопча? Галава баліць,

сэрца шчыміць, у жываце коліць? Захварэў ці закахаўся?

Г а н ч ы к. Ні захварэў і ні закахаўся. Сумна мне, бабуля.

В я д з ь м а р к а (*здзіўлена*). Сумна? То ідзі ў карчму.

Г а н ч ы к. І ў карчму хадзіў, і ў царкву – нічога не дапамагае. Азірнуся навакол – усё шэрае, нуднае, нецікавае. Ежа і пітво не смакуе, музыка не весяліць, дзявочыя ўсмешкі не радуюць. Не разумею, навошта людзі жывуць на свеце. Праца, якую я так любіў, у якую ўсю душу ўкладаў, валіцца з рук. Раней вяскоўцы замаўлялі мне зэдлікі, шафы, куфэркі, цяпер – толькі дамавіны на смерць. Няўжо чалавек нараджаецца толькі дзеля таго, каб памерці?

В я д з ь м а р к а. Цяпер разумею, цясляр. Але дапамагчы не магу. (*Разводзіць рукамі*). Няма ад суму ані зёлак, ані лекаў, ані чарадзейных замоваў.

Г а н ч ы к (*уздыхае*). Што ж, пайду ды ўтаплюся ў возеры. (*Паварочваецца да дзвярэй*).

В я д з ь м а р к а. Пачакай, Ганчык. (*Задумваецца*). Ёсць адзін спосаб. Калі ты не збаішся.

Г а н ч ы к (*паныла*). Чаго мне баяцца?

В я д з ь м а р к а. Заўтра на світанку ідзі ў дубовы гай, дзе было калісьці паганскае капішча. І вазьмі з сабой парожняе вядзерца. На паляне схавайся за дуб і чакай. Праз гай будзе ісці Волат, прысядзе на паляне адпачыць. І калі Волат раптам заплача – спрытна падстаўляй вядзерца і збірай ягоныя слёзы.

Г а н ч ы к (*здзіўлена*). А хіба ёсць на зямлі волаты?

В я д з ь м а р к а. Гэта апошні.

Г а н ч ы к. А навошта мне ягоныя слёзы, бабулька?

В я д з ь м а р к а. Вып’еш глыток – зразумееш.

Г а н ч ы к. Дзіўная твая парада... Але што мне губляць?

В я д з ь м а р к а. Сапраўды.

*Ганчык выходзіць з хаты.*

В я д з ь м а р к а (*крычыць услед*). Не забудзь узяць вядзерца!

## З’ява другая

*На паляне ў дубовым гаі, дзе некалі было паганскае капішча. З’яўляецца цясляр Ганчык з парожнім вядзерцам у руцэ. Аглядае паляну, шукаючы, дзе зручней схавацца.*

Г а н ч ы к (*бурчыць*). Людзі жартуюць: “Як дурань з дзвярыма!” А я – дурань з вядзерцам. Дарэмна я паслухаўся Вядзьмарку. Няма на зямлі Волатаў.

*Нечакана на зямлю побач з Ганчыкам апускаецца вялізны бот. Потым другі, з іншага боку.*

Г а н ч ы к (*спалохана*). Вой! (*Хаваецца за дрэва*).

*На паляну апускаецца В о л а т, прысаджваецца на мураву, узнімае галаву ўгору і, прыкрыўшы вялізнай далоняй вочы ад яркіх сонечных промняў, слухае спевы птушак у гаі.*

В о л а т (*размаўляе сам з сабой*). Калі глядзіш на неба, робішся такім жа маленькім і бязважкім, як гэтыя бясклапотныя птушкі, што спяваюць у гаі. Маці казала мне ў дзяцінстве, што каб спасцігнуць сэнс жыцця, трэба глядзець на неба альбо на маленькую зялёную сцяблінку, па якой паўзе залаты жучок. Крыўдна, што Волатаў засталося так мала на свеце. У нас не толькі моцныя рукі і магутныя плечы, але і вялікае сэрца, у якім месціцца столькі любові і разумення пенкнаты! Людзям не ўласціва ні першае, ні другое, яны слабыя рукамі і баязлівыя сэрцам, ім не дадзена разумець хараство свету і захапляцца прыгажосцю. (*Уздыхае*). Ці сустрэну я на гэтай зямлі сваіх братоў і сясцёр? А, можа, я апошні Волат на свеце і памру самотны?

*Закрыўшы твар далонямі, Волат пачынае плакаць. З-за дрэва выбягае Ганчык і спрытна падстаўляе вядзерца, у якое цякуць волатавы слёзы. Волат не заўважае цесляра і, паплакаўшы над сваёй доляй, узнімаецца на ногі і працягвае шлях.*

Г а н ч ы к (*усхвалявана*). Сапраўдны Волат! Не падманула Вядзьмарка. І поўнае вядзерца слёз. Што мне з імі рабіць? Вядзьмарка сказала: “Віп’еш глыток – зразумееш”. Што ж, паспрабую...

*Ганчык адпівае нагбом некалькі глыткоў з вядзерца і са стогнам апускаецца на паляну, ледзь не разліўшы дзіўнае пітво. Ачуняўшы, цясляр апынаецца ў іншым свеце: бачыць колеры, якія раней не бачыў, чуе гукі, якія раней не чуў, адчувае пахі, якія раней не адчуваў.*

Г а н ч ы к (*азіраецца навакол*). Божа, які дзівосны свет! Як ярка свеціць сонца, як чароўна спяваюць птушкі, як духмяна пахнуць кветкі! Я чую, як па маіх жылах бруіцца кроў, як радасна стучыць сэрца, раскрываецца насустрач свету душа. Дзякуй табе, Волат!

*Шчаслівы Ганчык пакідае паляну, трымаючы ў руках вядзерца з чароўным пітвом.*

## З’ява трэцяя

*У майстэрні цесляра Ганчыка. Напяваючы вясёлую песенку, Ганчык нешта майструе з драўляных дошак. Уваходзіць Вядзьмарка, з цікавасцю прыглядаецца да Ганчыка і ягонага занятку.*

В я д з ь м а р к а. Бог у помач, Ганчык!

Г а н ч ы к (*адарваўшыся на хвіліну ад працы*). Гэта ты, бабуля? Заходзь, заходзь! Я табе вельмі рады.

В я д з ь м а р к а. Што робіш: збіваеш чарговую дамавіну?

Г а н ч ы к. Якая дамавіна: я ўжо забыўся, калі іх рабіў! Цяпер вяскоўцы замаўляюць мне ложкі для маладых і калыскі для дзяцей.

В я д з ь м а р к а. Бачу, цяпер табе няма часу сумаваць.

Г а н ч ы к. Які там сум! Здаецца, што людзі перасталі паміраць, а толькі нараджаюцца і жэняцца. Я і сам падумваю, каб ажаніцца і абзавесціся грамадкай дзетак.

В я д з ь м а р к а. Значыць, ты сустрэў Волата і сабраў

ягоныя слёзы? Чароўнае пітва падзейнічала?

Г а н ч ы к. Яшчэ як падзейнічала! Я нібыта ў іншым свеце апынуўся. (*Летуценна*). Я бачу колеры, якія раней не бачыў, чую гукі, якія раней не чуў, адчуваю пахі, якія раней не адчуваў... (*Спахапіўшыся*). Дзякуй табе, бабуля, за раду! Прасі якую хочаш узнагароду.

В я д з ь м а р к а (*усміхаецца*). Што ж, налі мне паўвядзерца чароўнага пітва.

Г а н ч ы к (*аж падскоквае*). Паўвядзерца?! А мне што застанецца? (*Стрымліваючы раптоўную злосць*). Але ж ты прыдумала, старая! Прасі нешта іншае.

В я д з ь м а р к а. Не хвалюйся, я пажартавала. Зрабі мне дамавіну на смерць.

Г а н ч ы к (*разгублена*). Але я не раблю цяпер дамавіны... Давай лепш змайструю табе шырокі, зручны ложак. Царскі!

В я д з ь м а р к а. З кім мне на тым ложку спаць: са смерцю? (*Упарта*). Зрабі дамавіну.

Г а н ч ы к. Прабач, не магу... Баюся вяртацца да старога. А раптам я зраблю табе дамавіну і мне зноў зробіцца сумна?

В я д з ь м а р к а. Я пачакаю, Ганчык. (*Выходзіць з майстэрні*).

## З'ява чацвёртая

*Хатка вясковай знахаркі-вядзьмаркі. На сценах вісяць сушаныя зёлкі, на паліцах стаяць рознакаляровыя бутэлькі з адварамі і настоямі.*

В я д з ь м а р к а ў акулярах схілілася над сталом і чытае некую вялізную кнігу.

В я д з ь м а р к а (*чытае па складах*). "Слеза – бесцветная, прозрачная, солоноватая на вкус жидкость, продукт особых желез, находящихся позади глаз, обмывающая глаза, предохраняющая их от засыхания, обильно выделяемая при некоторых физиологических или психических состояниях (при сильном, тяжелом или радостном переживании, при сильном смехе или кашле). Примеры из литературы: «Много слез го-

рючих невинно я лила» (Лермонтов). «Слезы счастья душат грудь» (Блок). От горя и слез за эти годы Наталья Кирилловна постарела» (Толстой). (*Задумліва*). Пастарэла ад гора і слёз...

*За дзвярыма чуваць нейкі шум, стук, тупат. Дзверы расчыняюцца, запыханы цясляр Ганчык уцягвае ў хатку свежазбітую дамавіну.*

Г а н ч ы к. Вось твая дамавіна, старая! Толькі скажы, дзе мне знайсці Волата.

В я д з ь м а р к а. Рада цябе бачыць, Ганчык! (*Наіўна*). А што здарылася?

Г а н ч ы к (*злосна*). Што, што... Чароўнае пітво скончылася!

В я д з ь м а р к а. Вось бяда, дык бяда... А ты не ведаў, што ўсё ў жыцці раней ці пазней заканчваецца? Пітво, каханне, шчасце, нават... само жыццё.

Г а н ч ы к. Хопіць чытаць мне маралі, старая! Забірай дамавіну і кажы, дзе шукаць Волата. (*Разважліва*). Гэтым разам я не буду такім прастаком: вазьму з сабой два вялікія вядры!

В я д з ь м а р к а (*усміхаецца*). Хоць тры, хлопча. Толькі Волата ты больш не сустрэнеш.

Г а н ч ы к. Чаму гэта? (*Падумаўшы*). Ага, разумею: ты пакрыўдзілася на мяне і не хочаш дапамагчы?

В я д з ь м а р к а. Можа і пакрыўдзілася... Але не ў тым прычына, Ганчык.

Г а н ч ы к. А ў чым?

В я д з ь м а р к а (*сумна*). Няма больш на свеце Волатаў. Гэта быў апошні, і ён памёр.

Г а н ч ы к (*крычыць*). Хлусіш, ведзьма! Я табе не веру! Я знайду яго, вось пабачыш, знайду! (*Выбягае з хаткі,злосна ляснуўшы дзвярыма*).

В я д з ь м а р к а. Бедны хлопец! Што з ім цяпер будзе? (*Разглядае дамавіну*). А дамавіна ладная, хоць ты спаць у яе кладзіся!

## З’ява пятая

*На паляне ў дубовым гаі, дзе некалі было паганскае капішча. На паляне сядзіць Ганчык, абхапіўшы галаву рукамі, побач валяюцца два абернутыя парожнія вёдры.*

Г а н ч ы к (*сумным голасам*). Дарэмныя мае шуканні: ні ў родных мясцінах, ні на чужыне не сустрэў я Волата. Відаць, праўду сказала Вядзьмарка: гэта быў апошні Волат на зямлі. Як цяпер мне жыць з уласнымі пачуццямі, зрокам, слыхам? Толькі Волаты здольныя былі ўбачыць сапраўднае хараство свету і зразумець яго. Людзі жывуць у сумным, бляклым, нецікавым свеце. Лепей бы мне было адразу ўтапіцца. (*Плача: спачатку ціхенька, потым наўзрыд*).

*Нечакана як з-пад зямлі з’яўляюцца Гномы-Карузлікі з маленькімі блішчастымі вядзерцамі, спрытна збіраюць слёзы Ганчыка ў вядзерцы, тут жа п’юць нагбом, радасна крычаць, а потым, адставіўшы ўбок вядзерцы, бяруцца за рукі і пачынаюць таньчыць ды співаць.*

*Ганчык сунімае плач, працірае вочы і са здзіўленнем назірае за дзіўнымі стварэннямі.*

Г н о м ы-К а р у з л і к і (*спяваюць пісклівымі галасамі*):

Сонца свеціць, ветрык вее,
Кветка пахне-ружавее,
Птушак спевы-пералівы.
Ах, які наш свет шчаслівы!

Бурапеніць кроў у жылах,
Нам да скону танец мілы!
Сэрца у грудзях стучыць.
Ах, якая радасць жыць!

*Назіраючы за танцам маленькіх стварэнняў і слухаючы іх бязладны спеў, Ганчык нечакаена пачынае гучна смяяцца. Спалоханыя Гномы-Карузлікі хапаюць свае вядзерцы і разбягаюцца хто-куды, а цясляр усё заходзіцца смехам. З кожным імгненнем гэты смех робіцца ўсё больш*

*шчырым, радасным і шчаслівым.*

## З’ява шостая

*У майстэрні цесляра Ганчыка. Напяваючы вясёлую песенку, Ганчык нешта майструе з драўляных дошчачак, колаў, слупкоў. Уваходзіць Вядзьмарка, са здзіўленнем прыглядаецца да Ганчыка і ягонага занятку.*

Вядзьмарка. Бог у помач, Ганчык!

Ганчык (*адарваўшыся на хвіліну ад працы, прыязна*). Дзень добры, бабуля!

Вядзьмарка. Што тым разам майструеш: калыскі ці дамавіны?

Ганчык. Ні тое, ні другое: дзіцячыя цацкі.

Вядзьмарка. Цацкі? (*Здзіўлена*). Няўжо ты ўсё-ткі знайшоў Волата? І ў цябе зноў ёсць чароўнае пітво?

Ганчык. І Волата не знайшоў, і чароўнага пітва не маю. Але хачу табе шчыра падзякаваць, бабуля.

Вядзьмарка. За што? Ты ўжо не сумуеш, Ганчык?

Ганчык. Сумую калі-некалі. А калі-некалі – радуюся. Затое я шмат чаго зразумеў.

Вядзьмарка. Што ты зразумеў, цясляр?

Ганчык (*адклаўшы працу, разважліва*). Я зразумеў, што шчасце не толькі ў тым, каб браць, але і каб даваць. Не толькі ў тым, каб убачыць свет чужымі вачыма, але і каб адкрыць яго іншым. Што блаславёны той сум, з якога нараджаецца чужая радасць.

Вядзьмарка. Ты гавораш як мудрэц, Ганчык. (*Недабразычліва*). Але ўся твая мудрасць вынікае толькі з таго, што ты малады і ў цябе ўсё жыццё наперадзе. (*Сумна*). А я – старая, хутка лягу ў тваю дамавіну і ніхто мяне не пашкадуе. Хоць ты плач.

Ганчык (*са спачуваннем*). А ты паплач, бабулька.

*Вядзьмарка сапраўды ўсхліпвае. Нечакана як з-пад зямлі з’яўляюцца Гномы-Карузлікі з маленькімі бліщчастымі вядзерцамі, спрытна збіраюць слёзы Вядзьмаркі ў вядзерцы, тут жа п’юць нагбом, радасна крычаць, а*

*потым, адставіўшы ўбок вядзерцы, бяруцца за рукі і пачынаюць таньчыць ды спяваць.*

Г н о м ы-К а р у з л і к і (*спяваюць пісклівымі галасамі*):

Сонца свеціць, ветрык вее,
Кветка пахне-ружавее,
Птушак спевы-пералівы.
Ах, які наш свет шчаслівы!

Бурапеніць кроў у жылах,
Нам да скону танец мілы!
Сэрца у грудзях стучыць.
Ах, якая радасць жыць!

*Назіраючы за танцам маленькіх стварэнняў і слухаючы іх бязладны спеў, Вядзьмарка з Ганчыкам пачынаюць гучна смяяцца. З кожным імгненнем іхні смех робіцца ўсё больш шчырым, радасным і шчаслівым.*

## Эпілог

Ноч. Вядзьмарка жне палын
У прагорклым полі,
На далёкі чорны млын
Носіць у прыполе.
Неба зоркамі мігціць,
З шыбеніцы д’ябла
Мёртвы месячык вісіць,
Недаспелы яблык.
Ходзяць жорны хадуном,
Аж рыпіць каменне.
Пахне горкім палыном
Ведзьміна ўтрапенне.
Зварыць келішак пітва,
Развядзе крывёю:
Праясніцца брыдкі твар
Чыстаю СЛЯЗОЮ.

## ЗМЕСТ

### **I. Варажба.** Вершы

## **II. Пясочны замак.** Казкі

